

# Беларус

> **«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».**
> *— Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

**№ 424 Травень 1995**
Год выд. 44

**BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.**
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## НА 50-ГОДЗЬДЗЕ ПЕРАМОГІ (1945-1995)

### Ці перамаглі фашызм? Чым адзначыць Перамогу?

7-9 травеня сёлета вялікімі ўрачыстасьцямі па ўсіх эўрапейскіх сталіцах было адзначана 50-годзьдзе перамогі над нямецкім фашызмам. Сьвяткаваў гэтую дату і Менск.

Але ў Менску на глебе інтрыгаў чужое дзяржавы і мясцовага бальшавіцкага мэнталітэту пачынаюць прарастаць парасткі новага фашызму, які імкнецца паставіць сябе на паслугі расейскаму вялікадзяржаўніцтву. «Банда Лукашэнкі выканала загад свайго гаспадара. Але гэта ўсяго толькі пачатак», піша газэта «Свабода» (15.04.95) пра гвалт, які ўчынілі ў будынку Вярхоўнага Савету Беларусі замаскаваныя спэцштурмавікі над 19 парлямэнтарыямі-галадоўшчыкамі. Пра гэты акт насільля над дэпутатамі народны пісьменьнік Васіль Быкаў, удзельнік збройнага змаганьня зь нямецкім фашызмам, заявіў 12 красавіка: «Тое, што адбылося за апошнія суткі, ёсьць ня што іншае, чымся прэлюдыя фашыстоўскага перавароту, калі група асобаў учыняе крывавую лазьню ў сьценах парламанту і захоплівае ўсю паўнату ўлады ў краіне». Гэтая заява зробленая блізу роўна за месяц перад парляманцкімі выбарамі ў Беларусі. Ці можна спадзявацца на справядлівыя выбары ў такой атмасфэры?

Прэзыдэнт Лукашэнка гатовы выдаць указ аб забароне дзяржаўнае сымболікі Беларусі, якая перашкаджае яму зьліквідаваць і саму беларускую дзяржаўнасьць. Былы палітрук, а цяперашні прэзыдэнт, не здаецца ў сваёй гатовасьці вярнуць рэспубліку хоць указам назад пад уладу Крамля на фактычны статус безгалосае правінцыі.

Чаго сучасная Беларусь найбольш патрабуе, дык гэта ўказу, пра які пісаў нядаўна ў «Народнай газэце» (25-27.III.95) былы савецкі партызан, пісьменьнік Валянцін Тарас. «Патрэбен указ, што не дапусьціць да фашызму» — гучыць загаловак ягонага артыкулу. Свае добра аргумэнтаваныя разважаньні на тэму нацыянальнае сымболікі, аўтар канчае словамі:

«Я перакананы (ды ці я адзін?), што патрэбен указ не аб сымболіцы, а ўказ, што не дапусьціць да пашырэньня ў нашай краіне фашысцкай заразы, якая напяльвае на сябе маску ўсялякіх 'рускіх адзінстваў', 'эсэс-сабораў' і 'лібэральных дэмакратаў'. Указ, які паставіць перашкоду фашыстам, які будзе прадугледжваць ня менш жорсткае, чымся ў сучаснай Нямеччыне, антыфашысцкае, антынацыстаўскае заканадаўства — вось што сталася-б запраўды дастойным укладам у сьвяткаваньне пяцідзесяцігодзьдзя Перамогі!»

Ці здолее новаабраны Вярхоўны Савет Беларусі выпрацаваць гэткае заканадаўства? Ці ўжо запозна на гэта?

## ПРЭЗЫДЭНТЫ БЕЛАРУСІ І ЗША АБМЯНЯЛІСЯ ЛІСТАМІ

З нагоды 50-х угодкаў заканчэньня Другой сусьветнай вайны ў Эўропе Прэзыдэнт Клінтан у лісьце да Прэзыдэнта Лукашэнкі згадаў памяць «мільёнаў беларусаў, што загінулі ў гэным жахлівым канфлікце, ды ахвяры вэтэранаў і цывільных жыхароў, што перажылі вайну і так шмат спрычыніліся да супольнай перамогі над фашызмам». «Памяць іхная, — сказана ў лісьце, — востра нагадвае нам пра наш узаемны абавязак споўніць абяцаньне свабоды, за якую было пакладзена гэтулькі ахвяраў на зямлі Беларусі».

Прэзыдэнт Лукашэнка ў сваім лісьце перадаў прывітаньне ад імя беларускага народу ўсім амэрыканцам і асабіста Прэзыдэнту Клінтану. Гаворачы пра людзей свайго пакаленьня, якія «нарадзіліся ў мірны час», Лукашэнка нагадаў пра найважнейшае — «нашу адказнасьць за мір у сьвеце». «Беларусы, — сказана ў лісьце, — добра памятаюць саюз нашых народаў у часе вайны, угрунтаваны на агульных ідэалах свабоды і гуманізму».

## СТАН АМЭРЫКАНСКАЙ ДАПАМОГІ БЕЛАРУСІ

**Вашынгтон устрывожаны**

Сьледам за візытам беларуска-амэрыканскае дэлегацыі ў Дзяржаўны Дэпартамант ЗША (гл. «Беларус» № 423) адбылася ў Вашынгтоне 27 красавіка сустрэча прадстаўнікоў беларускае грамадзкасьці са сп. Грэгам Гюгерам, кіраўніком місіі Амэрыканскага Агенцтва Міжнароднага Разьвіцьця (ААМР) у Беларусі, Украіне і Малдове (з цэнтрам у Кіеве). У сустрэчы ўзялі ўдзел зь беларуска-амэрыканскага боку Алеся Кіпель ад Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, Алекс Сільвановіч ад Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і Расьціслаў Завістовіч ад Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі. У гутарках, апрача сп. Гюгера, былі ўдзельнікамі Лінда Бэрнстын зь Беларускага аддзелу ААМР і Келі Пэйслі, сувязная ААМР на Эўропу і нованезалежныя дзяржавы былога СССР.

Паясьняючы сьціплыя памеры дапамогі Беларусі ад ААМР, сп. Гюгер сказаў, што беларускі ўрад тымчасам ня надта сьпяшаецца з рэформамі. І дзеля гэтага амэрыканская дапамога скіраваная цяпер на такія праекты, як партнэрства паміж шпіталямі ў Беларусі і ЗША, удзел у прыватызацыйных праграмах у Берасьці й Горадні (дзе ў 1994 г. прыватызавана, адпаведна, 40 і 30 працэнтаў гарадзкое маемасьці); дапамога амэрыканскімі прафэсіяналамі беларускім адвакатам; некаторыя сельскагаспадарчыя праекты.

Сп. Гюгер згадзіўся з пажаданьнем беларуска-амэрыканскае дэлегацыі, каб у Менску было адкрыта бюро ААМР. Гэткае прадстаўніцтва, на думку сп. Гюгера, можа быць адчыненае да канца году сёлета.

Беларуска-амэрыканскія дэлегаты зьвярнулі ўвагу вашынгтонскіх урадаўцаў на трывожныя падзеі ў Беларусі: усталёўваньне Прэзыдэнтам Лукашэнкам цэнзуры і ўжываньне паліцыйнае сілы супраць парлямэнтарыяў. Абодвы бакі згадзіліся, што гэткія дзеяньні — паважны ўдар па дэмакратычных працэсах у Беларусі.

**А. Сільвановіч**

## ІМПЭРСКІ МЭНТАЛІТЭТ РАСЕЙЦАЎ

Паважаная рэдакцыя штомесячніка «Беларус»!

Сёньня я высылаю Вам інтэрв'ю зь вядомым пецярбургскім тэлежурналістам Аляксандрам Неўзоравым, якое зьмясьціў на сваіх старонках маскоўскі штотыднёвік «Аргументы и факты». Чаму я гэта раблю? Таму, што Неўзораў зьяўляецца хоць і скандальнай, але вельмі характэрнай для Расеі асобай, для якой пашырэньне дзяржавы, заваёвы новых земляў і шляхоў зносін важней за ўсё. Гэткія людзі, згодныя цярпець голад, нястачы, зьдзек над сабою (як пры Іване Жахлівым), абы пашыралася дзяржава, абы на Расею працавала як мага больш людзей, абы выкарыстоўваць на карысьць Расеі геапалітычнае становішча ці прыродныя багацьці суседа.

Бо на працягу ўсяе гісторыі Маскоўскае Русі ў яе заўсёды былі прэтэнзіі да суседзяў: то ім патрэбны выхад у Балтыцкае мора, то ў Чорнае, то сухапутны шлях у Нямеччыну і Францыю. І праваднікамі, выканаўцамі гэтай ідэі зьяўляліся людзі тыпу Неўзорова. А сёньня ён не адзінокі, бо ягоныя погляды падзяляе ня толькі Жырыноўскі, але і Грачоў, Козыраў, ды і сам Ельцын.

Калісь, у 1991 годзе, Ельцын, каб адабраць уладу ў Гарбачова, згадзіўся на ўтварэньне незалежных рэспублік Украіны і Беларусі, а цяпер бізуном і пернікам заганяе нас назад у Саюз. Бо і новыя рускія рублі былі ўведзеныя насуперак дагаворанасьцям, і доўгія неплацяжы за нашае мяса, тэлевізары і халадзільнікі падчас інфляцыі зьбяднялі менавіта нас, тых, хто выраблёў гэта, а аплату атрымоўваў тады, калі за гэтыя грошы аніяк свае затраты не пакрыеш.

А спадар Козыраў? Такі заняты чалавек, сьпіць і есьць у самалётах, а

*(Працяг на 2-й ст.)*

***Беларускаму Дэмакратычнаму Аб'яднаньню Вэтэранаў у Менску. Старшыню Васілю Быкаву***

У 1974 годзе адбылася Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх вэтэранаў на чужыне ў Манчэстэры ў Англіі. Удзел прынялі прадстаўнікі нашых вэтэранаў з Эўропы, Амэрыкі і Аўстраліі. Яны выбралі Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў і ўжо на працягу дваццаці гадоў выдаецца орган гэтага камітэту, вэтэранскі часапіс «Зважай».

У 50-я ўгодкі перамогі над фашызмам, мы віншуем усіх беларусаў-удзельнікаў гэнага змаганьня з гітлераўскай Нямеччынай і ўшаноўваем памяць пра загінуўшых на палях баёў, а таксама трымаем у пашане памяць замардаваных нявінных нашых суродзічаў у канцлягерах гітлераўскай Нямеччыны і савецкага Гулагу.

Тыя з нашых вэтэранаў, што пасьля Другой сусьветнай вайны, пасяліліся ў вольных дзяржавах Эўропы, Амэрыкі і Аўстраліі, падчас вайны былі ў хаўрусных арміях. Найбольшая колькасьць іх, звыш 30 тысяч, змагалася ў шэрагах польскіх збройных сілаў пад брытанскай камандай у Паўночнай Афрыцы, Італіі і Заходняй Эўропе.

Мы далучаемся да закліку Арганізацыйнага Камітэту сьвяткаваньня перамогі ў Менску, старшынём якога зьяўляецца беларускі Народны пісьменьнік Васіль Быкаў.

Жадаем Беларускаму народу, каб ён асягнуў поўную вольнасьць і незалежнасьць, а ў Рэспубліцы Беларусь захаваў беларускую дзяржаўную мову й сімвалы дзяржавы — Пагоню й Бел-чырвона-белы сьцяг.

**Памажы яму, Божа!**

***25.4.1995 г.***

**Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў на чужыне**
**К. Акула, старшыня**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. за год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ІМПЭРСКІ МЭНТАЛІТЭТ РАСЕЙЦАЎ

(*Заканчэньне зь 1-й ст.*)

знайшоў тры дні часу, каб падтрымаць аўтарытэтам расейскай улады зборышча кіраўнікоў абласьцей і раёнаў Расеі, Беларусі і Украіны ў Ніжнім Ноўгарадзе, якія абмяркоўвалі магчымасьці аб'яднаньня славянскіх народаў у новы Саюз. Украінскі прэзыдэнт асудзіў гэтае зборышча, беларускі — не, бо ён і дагэтуль ня ведае, хто ён па нацыянальнасьці ці паходжаньні.

Менавіта таму, што пагляды Неўзорава характэрныя для многіх рускіх і іх кіраўнікоў асабліва, цікава ведаць аб ім больш, бо прэзыдэнт вядзе нас да самага цеснага саюзу зь імі. А ў гэтую пастку трапіць лёгка, а выбрацца будзе немагчыма, другога віскулёўскага шанцу ня будзе.

І так, Неўзораў. Сын афіцэра савецкага КДБ. Бацька служыў пасьля вайны ў Літве і наогул у Прыбалтыцы — якраз тады, калі прыбалтаў эшалонамі вывозілі ў Сібір і на Поўнач, а на іх месца завозілі ў заходнія вобласьці СССР надзейных рускіх.

Сын стаў вядомы, калі на пецярбургскім тэлебачаньні пачаў перадаваць рэпартажы з самых скандальных здарэньняў. Тое, аб чым яшчэ ніхто ня ведаў, Неўзораў ужо ведаў і вёў здымкі. Лічыцца, што без дапамогі КДБ тут не абышлося. На ўсесаюзны экран студыі Астанкіна ёй выйшаў з рэпартажам «Нашы», аб дзейнасьці нутраных войскаў у Вільні пасьля падзей ля віленскай тэлевежы на пачатку 1991 году. Бязумоўна, дзеяньні савецкага войска падчас расстрэлу мірных жыхароў Вільні ён апраўдвае. Гэты рэпартаж так спадабаўся Гарбачову, што яго паказвала Астанкіна ў самы лепшы час некалькі разоў. Пасьля было вялізнае інтэрв'ю зь ім у камуністычнай газэце Пецярбурга, дзе ён сказаў наступнае (пішу па памяці): «Жаўнеры Пятра I ішлі ў Прыбалтыку па лыткі ў крыві, бо гэта было патрэбна дзяржаве. І зараз гэтыя тэрыторыі, заваёваныя крывёю рускіх, нельга аддаваць назад ні ландсбэргісам, ні іншым мясцовым нацыяналістам. Бо ў гэтых мясьцінах дзяржаўныя інтарэсы Расеі. І гэта важней за ўсялякія там дэмакратычныя выдумкі наконт правоў чалавека».

Гэта казаў Неўзораў чатыры гады таму. А сёньня, калі ён ужо дэпутат Дзяржаўнай думы Расеі? Вось у канцы інтэрв'ю, гаворачы аб вайне ў Чачні, ён кажа:

«Яшчэ ёсьць у гэтай вайны такі выхаваўча-дадатны мамэнт. Гэта — страшэннае відовішча, але вельмі карыснае для многіх амбіцыйных кіраўнікоў краёў, абласьцей, рэспублік. Ёсьць канстытуцыя і тэрытарыяльная недатыкальнасьць (суцэльнасьць) краіны. **Ні мілімэтра нікому,** ні ў якім выпадку! ... І ўсялякі бунт супраць Расеі будзе канчацца менавіта так.»

І гэта пра Чачню, якую рускія заваёвалі больш за 50 гадоў, дзе, каб перамагчы малалюдныя плямёны горцаў, Расея трымала больш за палову свайго войска. І ваявала да 1856 году, пакуль перамагла Шаміля. Бо гэта горы, гэта не Беларусь, дзе за год Сувораў справіўся з Касьцюшкам. У заваёве Каўказу прымалі ўдзел і Лермантаў і граф Леў Талстой. І вось, пакіраваўшы гэтымі народамі каля 140 гадоў, Расея кажа, што гэта яе тэрыторыя, хаця насельніцтва там не праваслаўнае, дзесяцігодзьдзі змагалася за сваю волю, ня ўспрымала рускіх.

А што-ж тады казаць нам, беларусам, якім ужо 200 гадоў убіваюць у галовы, што мы — родныя браты рускіх, тысячагодзьдзе жылі разам у адной дзяржаве? Тут, калі мы зноў увойдзем у склад адзінай дзяржавы, назад, на волю ўжо ня выбрацца. Бо Віскулі, дзе Расея адмовілася ад сваіх «правоў» на нас, бываюць толькі раз у тысячагодзьдзе. Другі раз, калі беларусы не захочуць жыць у адной дзяржаве з рускімі, будзе ў нас свая «Чачня». Бо «ніводнага мілімэтру анікому, і ўсялякі бунт супраць Расеі будзе канчацца толькі так» (як сёньня ў Чачні), кажа таварыш Неўзораў. І яму напляваць на тое, што цяпер увесь Каўказ ненавідзіць рускіх, што 100 тысяч рускіх хлопчыкаў бачаць цяпер у чачэнцах ды іншых каўказцах толькі «мішэнь» для стральбы па іх. **Яны, бач ты,** маюць маральнае права **на помсту.** (**«В этих мальчишках я видел возможно... не то чтобы свести счеты, но внутренне, по-человечески отомстить».**) Помсьціць за што? За тое, што людзі баранілі свае хаты, сваіх сясьцёр, жонак, матак?

Але-ж важна ня гэта, важна вялікая Расея! Таму Неўзораў чакае на такі рэзультат: «Мяркую, што гэтая каўказская вайна, яна і каўказцаў навучыць ветлівасьці ў адносінах да Расеі».

«І можна колькі заўгодна крычаць, што ляжаць трупы, што парушаюцца правы чалавека — ну і што? Да хрэн зь імі», філязофствуе Неўзораў і ў 1995 годзе, як і ў 1991 годзе ў Вільні. Бо ён і мільёны такіх, як ён, нарадзіліся захопнікамі, мілітарыстамі — усё для нашай дзяржавы! Правы чалавека яго, бач ты, ня цікавяць! Ды яны нікога ў Расеі ня цікавяць, і гэта паказаў «дэмакрат» Ельцын, зрабіўшы ў сваёй (як ён лічыць) краіне нешта большае, чым Афганістан.

Ельцын хоць перад Захадам хоча падтрымваць імідж «дэмакрата», паважае правы чалавека. А калі яго замяніць Жырыноўскі ці Неўзораў, што зусім ня выключана? Тады і без Лукашэнкі Расея будзе нас прымушаць далучыцца да яе. Дасьведчанне ёсьць: і Таргавіцкая канфэдэрацыя перад першым падзелам Рэчы Паспалітай, і партызанка Арлоўскага ды Ваўпшасава, Каржа на «усходніх крэсах» Польшчы, сувэрэнітэт якой Саветы павінны былі паважаць ня так, як сувэрэнітэт Беларусі, бо Польшча ў ніякі СНД не ўваходзіла.

Вось і задумаемся зараз, куды нас вядзе «усенародна выбраны» прэзыдэнт! Туды лезем без мыла, а калі спахопімся, дык і ў нас будзе Чачня. «Ні мілімэтра нікому!» — дэвіз рускіх.

*Гародзей, люты 1995 г.*

**Аляксандар Баханчык**

# АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРЭЗЫДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДРУ РЫГОРАВІЧУ ЛУКАШЭНКУ

***Ад Рэдакцыі:** Мы атрымалі ад Беларускага Згуртаваньня Аўстраліі просьбу апублікаваць адкрыты ліст Згуртаваньня да Прэзыдэнта Беларусі А. Лукашэнкі, пры гэтым апублікаваць ліст «у поўным яго арыгінале, уключаючы асаблівасьці мовы і арфаграфіі, каб ён поўнасьцю супадаў з арыгіналам 'Адкрытага Ліста', высланага на рукі Прэзыдэнта». Выконваем просьбу.*

Вельмі Шаноўны Сп. Прэзідэнт!

Ужо праходзіць другая палова года з таго часу калі Вы, пад лёзунгам *Антыкарупцыі і Вываду Беларусі з Эканамічнага Крызіса*, былі выбраныя першым Прэзідэнтам незалежнай Рэспублікі Беларусь і ўвесь беларускі народ, будучы моцна змучаным доўгагадовымі здзекамі і ашуканствам з боку розных акупантаў, з захапленнем чакаў Вашых рашучых крокаў супраць карупцыянераў аднак, да гэтага часу, спадзяванні беларускага народа не апраўдаліся і ён цяпер жыве нават горш чым да выбараў...

СПРАВА КАРУПЦЫІ І КАРУПЦЫЯНЕРАЎ

Падчас Прэзідэнтцкіх выбараў, беларускі народ паверыў Вам, даў Вам свой голас і ўзлажыў на Вас сваю надзею што Вы ачысціце Урадавыя Установы ад карупцыянераў каторыя, як тыя паразіты, смокчуюць беларускую кроў і даводзяць прыродна-багатую Рэспубліку Беларусь да стану жабрацтва!

Беларускі сумленны народ і цяпер ўсё-яшчэ чакае і жыве з надзеяй што Вы выканаеце свае перадвыбарчыя абяцанні — аднак нават да нас ў далёкую Аўстралію ужо даходзяць трывожныя чуткі што Вашы абяцанні падаць ў суд карупцыянераў, аказаліся пустой перадвыбарчай прапагандай і што ў Новым Урадзе Вы толькі замянілі былых карупцыянераў другімі — сваімі пабочнікамі!

Надовечы мы мелі нагоду чытаць даклад зробляны ў Парлямэнце Беларусі дэп. С. Антончыкам, пра карупцыю і карупцыянераў якія, як выглядае, надалей працуюць пад Вашай апекай і таксама што Вы, замест юрыдычнай праверкі прадстаўленых дэп. С. Антончыкам фактаў, пайшлі па дыктатарскаму шляху *забароны* друкавання даклада ў газэтах Рэспублікі Беларусь — з ўжо цяпер сусветна ведамым, і моцна ў Вольным свеце асуджаным, эпізодам выхаду газэт з «белымі плямамі»... Тое што Ваш супрацоўнік, Сп. Фядута, ўзяў на сябе віну за гэты ганебны і дыктатарскі крок — *нічым не зніжае Вашу адказнасць за яго!!!*

Мы ў Аўстраліі выказваем сваю шчырую падзяку газэце «СВАБОДА» за поўнае апублікаванне даклада дэп. С. Антончыка і моцна асуджаем тых хто ламае Канстытуцыйныя правы беларускага народа і стараецца ізноў накінуць на яго ярмо фашыстоўска-камуністычнай дыктатуры!!!

СПРАВА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ МОВЫ

У Асноўным Законе Рэспублікі Беларусь ясна гаворыцца што дзяржаўнай мовай ёсць *беларуская мова* — дык калі, нарэшце, беларускі народ будзе мець радасць пачуць Вашы даклады і выступленні на беларускай мове???

Дарэчы тут ёсць зазначыць што, згодна маёй інфармацыі, Вы ёсць *адзіным Прэзідэнтам ў свеце каторы сароміцца дзяржаўнай мовы сваёй краіны*, і тыя аўстралійцы, каторыя цікавяцца і наглядаюць за падзеямі ў Рэспубліцы Беларусь, пытаюцца ў нас: Чаму??? Як і чым можна адказаць на гэтае пытанне??? Буду ўдзячным Вам за параду!!! Я асабіста трымаюся думкі што Вы ўсё-яшчэ вывучаеце беларускую літэратурную мову і што ў скорым часе Вы выступіце з прамовай да свайго народа на чыстай беларускай мове і гэтым дакажаце што Вы ёсць сапраўдным і гордым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь!!!

Вы надовечы ездзілі з афіцыйнай візытай ў суседнюю, Літоўскую Рэспубліку; дык дазвольце мне, калі ласка, крыху затрымацца і падсумаваць стан літоўскай мовы ў Літве і адносіны да яе Ураду Літоўскай Рэспублікі...

Як ведама, калі Літва аб'явіла сваю незалежнасць яшчэ ў 1918 годзе, літоўская мова была, амаль-што, поўнасцю знішчаная — аднак Урад

*(Працяг на 2-й ст.)*

## ПРАТЭСТ

**Яго Экзцэленцыі Прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку**

Зь вялікай трывогай прачыталі мы ў ангельскай газэце "Daily Telegraph" артыкул карэспандэнта ў Маскве Маркуса Варэна пад заг. **«Беларусь на рубяжы грамадзянскай вайны».**

**Беларусь атрымала незалежнасьць без праліцьця крыві сваіх грамадзянаў і, наколькі нам вядома, новапрынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь гарантуе ўсім жыхарам Беларусі дэмакратычныя правы, якія прыняты ў цывілізаваных краінах сьвету. Дзеля гэтага нас непакоіць сытуацыя, у якой дэпутаты Вярхоўнага Савету Беларусі былі моцна пабітыя ўзброенымі людзьмі пры падтрымцы міліцыі.**

У часы Савецкага Саюзу, калі існаваў камуністычны тэрор на Беларусі, такія здарэньні былі нармальнымі. Мы, беларусы, што жывём у Англіі, пратэстуем супраць такіх драконскіх правоў і гвалту над дэпутатамі Вярхоўнага Савету, які здарыўся 12-га красавіка ў Менску.

*24 красавіка 1995 г.*

**М. Баяроўскі**
(усіх 20 подпісаў)

## ШТО РОБІЦЬ ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ?

Фонд Адраджэньня Беларусі быў створаны ў 1990 годзе з мэтаю спрыяньня нацыянальнаму адраджэньню Беларусі, умацаваньню там дэмакратыі, эканомікі. Мэта гэтая дасягаецца шляхам збору ахвяраваньняў сярод беларускае дыяспары і пасыланьнем на Бацькаўшчыну магнітафонаў, кампютэраў, друкарак, факсмашынаў і іншае апаратуры, патрэбнае для інфармацыйнае і адукацыйнае дзейнасьці. Фонд дапамагае таксама прадстаўнікам беларускіх дэмакратычных арганізацыяў наведваць краіны Захаду.

Кожная асоба можа стацца сябрам Фонду. Сяброўскія складкі або ахвяраваньні просіцца пасылаць на адрас: Belarusian Renewal Fund, c/o Vera Zaprudnik, 97 Varnderbilt Road, Manhasset, N.Y. 11030.

Вашая дапамога патрэбная Беларусі асабліва сёньня, як пра гэта можна меркаваць з апошніх падзеяў на Бацькаўшчыне.

## *ВЫНІКІ РЭФЭРЭНДУМУ І ПЕРШАГА ТУРУ ВЫБАРАЎ У ВС БЕЛАРУСІ*

У нядзелю 14 травеня бальшыня галасоў рэфэрэндуму выказалася **ЗА**: 1) эканамічны саюз з Расеяй, 2) зьмену дзяржаўнай сымболікі, 3) дзяржаўнасьць расейскай мовы нароўні зь беларускай, 4) права прэзыдэнта на роспуск парляманту.

Дэпутатамі ВС абраныя толькі 19 чалавек на 260 дэпутацкіх пасадаў.

## САЛІДАРНАСЬЦЬ ЛЕТУВІСКАГА СОЙМУ З ДЭПУТАТАМІ ВС РБ

Сябра летувіскага Сойму Альгірдас Эндрукайціс паведаміў дэпутатам дэмакратычнае апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі, што ад імя Сойму Летувы быў уручаны беларускаму паслу ў Вільні Я. Вайтовічу «пратэст за парушэньне дэпутацкае недатыкальнасьці ў ВС Беларусі». Пратэст быў таксама перададзены беларускаму парляманту, Прэзыдэнту і ўраду Беларусі. Летувіскія дэпутаты папрасілі «даць інфармацыю па гэтым пытаньні, паколькі 18 красавіка мы зьбіраемся абмеркаваць гэтае пытаньне ў Сойме».

## ЗЬВЕРСТВЫ БАЛЬШАВІКОЎ І НАЦЫСТАЎ: РАЗДВОЕНАЯ ПАМЯЦЬ

Як пісаў у «Народнай газэце» (10.IV.95) гісторык Ігар Кузьняцоў, за час акупацыі немцы зьнішчылі ў Вялейцы паміж 6 і 8,5 тыс. мірных жыхароў. Але ці толькі немцы нішчылі беларусаў? «Калі пра ахвяры фашызму мы знаем, — піша Кузьняцоў, — дык аб ахвярах бальшавізму ўлады да сёньняшняга дня працягваюць замоўчваць». Паводле сьветчаньняў вялейскіх старажылаў, піша Кузьняцоў, «у Вялейцы ад верасьня 1939 г. па чэрвень 1941 было засуджана на расстрэл ня менш за тысячу чалавек».

У чэрвені 1941 г., калі пачалася вайна, зь вялейскай турмы пагналі этапам на ўсход 1,5-2 тыс. чалавек. Пагнаны на Полацк, этап быў вернуты назад у Вялейку, бо немцы перасеклі дарогу. Усіх, хто застаўся ў жывых пасьля павароту, як сьцьвярджае аўтар артыкулу, бальшавікі расстралялі на двары вялейскае турмы.

## *ПРАЕКТ ПАБУДОВЫ Ў ВАШЫНГТОНЕ МЭМАРЫЯЛУ АХВЯРАМ КАМУНІЗМУ*

Як паінфармаваў нас сп. Расьціслаў Завістовіч, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, у Вашынгтоне створаная кааліцыя для пабудовы ў сталіцы ЗША музэю, які будзе ўшаноўваць памяць ахвяраў камуністычнага таталітарызму. Кааліцыю ўзначальвае сп. Грувэр Норкуіст.

Кааліцыя заклікае ўсе групы й арганізацыі амэрыканцаў, што паходзяць з краёў, дзе панаваў або пануе камунізм, далучыцца да супольнага праекту пабудовы музэю. Кааліцыя выпрацавала рэзалюцыю, якую прапануе высылаць ад імя тае ці іншае арганізацыі Сьпікеру Палаты Прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША сп. Ньюту Гінгрычу.

Ніжэй падаём узор рэзалюцыі.

*Coalition For The Victims of Communism*

*Whereas*, since 1917, the rulers of empires and international communism led by V.I. Lenin and Mao-Tse-tung and their followers have been responsible for the death of over 100,000,000 victims in an unprecedented reign of terror;

*Whereas*, the Marxist nightmare continues to subject million of families, in all corners of the world, to the misery and repression inflicted upon them by revolutions, civil wars, purges, and violent crimes;

*Whereas*, modern-day, ruthless regimes continue to suppress the human rights, national independence, religious liberty, intellectual freedom and cultural life of over 40 captive nations;

*Whereas*, ideological bondage poses the threat of revisionist history being written to favor the dictators of imperialist regimes; and

*Whereas*, there is a critical need to educate future generations about the true nature of international communism;

*Therefore*, I, Russel R. ZAVISTOVICH, representing Belarusian Congress Committee of America, ideologically and morally support the construction of a museum honoring the past and present victims of communist totalitarianism.

Please send or fax to:
The Honorable Newt Gingrich
c/o Grover G. Norquist, Director
1320 18th Street, N.W. Ste 200
Washington, DC 20036
202-785-0266 Fax: 202-785-0261

Пабудова мэмарыялу ахвярам камунізму была ўпаўнаважаная актам Кангрэсу ЗША 17 сьнежня 1993 г. і ўхваленая Прэзыдэнтам Білам Клінтанам.

Праект гэты мае на мэце падтрыманьне дэмакратычных працэсаў і прыязных дачыненьняў паміж Злучанымі Штатамі і ўсімі нованезалежнымі дзяржавамі былога Савецкага Саюзу.

## *«БЕЛАРУСЬ ПРЫЦІСНУТАЯ ЦЯЖАРАМ НЯВЕДАМАГА ІМЯ»*

***Ад Рэдакцыі:*** *Бэльгійская флямандзкамоўная газэта «Дэ Стандаард» зьмясьціла ў нумары за 17 лютага сёлета артыкул свайго карэспандэнта Фрэдзі дэ Паў пад вышэй пададзеным загалоўкам. Зьмешчаны ніжэй пераклад гэтага артыкулу з французскай мовы зрабіў сп. Аляксей Арэшка. Падаём яго зь невялікімі скаротамі.*

«У будучыні я бачу перад сабой вось Менск – Брусэль таму, што нашая сталіца можа адыграць ва Ўсходняй Эўропе такую саму ролю, як ваша сталіца», кажа Ўладзімір Лабуноў, ад мінулага году першы пасол Беларусі ў нашай краіне. А тым часам ён скардзіцца на цяжкасьці прадстаўляць краіну, якую амаль ніхто ня ведае. Чаго ня ведаеш, таго ня любіш. «Вы таксама ня кажаце “Belarus”, зазначае ён. Назоў “Wit-Rusland” (Белая Русь) з савецкіх часоў яшчэ ўсё больш ведамы».

Пасол Лабуноў меў гэтыя апошнія месяцы шмат працы таму, што без дыпляматычнай практыкі ня лёгка было стварыць пасольства. Яму таксама было ня лёгка пераканаць у сваёй краіне, што Брусэль мае важнасьць. Нядаўна міністар замежных справаў Беларусі наведаў Брусэль, каб падпісаць умову аб партнэрстве з НАТО. Беларусь была ў гэтым перадапошняй (перад Туркмэністанам). Чаму так позна? «Мы мелі шмат праблемаў у сваёй краіне. Беларусь знаходзіцца ў вельмі спэцыфічнай геапалітычнай пазыцыі. Не забывайце таксама, што для нас НАТО была вельмі даўгі час ворагам. У нашай грамадзкай думцы паўставала пытаньне аб патрэбе далучэньня». У голасе пасла загучала лёгкае расчараваньне, калі ён успомніў факт, што Беларусь зьліквідавала ядзернае ўзбраеньне, але ня была за гэта адплачаная. Тым часам як краіна яшчэ праз некалькі пакаленьняў будзе цярпець ад вынікаў чарнобыльскае катастрофы.

Лабуноў гардзіцца тым, што за такі кароткі час наладзіў добрыя адносіны з Эўрапейскай Супольнасьцю (ЭС), хоць канкрэтнае дапамогі з боку ЭС яшчэ мала. (...)

Беларусь не прайшла яшчэ праз шокавую тэрапію, кажа ён, як гэта зрабілі суседнія Польшча ці Расея. «Мы спачатку разглядаліся навокала сябе і чакалі. Рэформы самі сабою лёгка ня зробяцца. Лібэралізацыя цэнаў можа быць усім, чым хочаце, толькі не папулярнай справай. Яна, прыкладам, вельмі цяжкая для пэнсіянераў. Пэўна-ж, мы маем вялікую перавагу: мы палітычна й эканамічна вельмі стабільныя. Да таго ў нас няма ні этнічных, ні рэлігійных канфліктаў, мы ня маем ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзіяў да нашых суседзяў і наадварот. Нашае эканамічнае становішча дрэннае, але ў шмат якіх іншых краінах былога Савецкага Саюзу яно яшчэ горшае».

**Тоеснасьць**

Адна з большых праблемаў Беларусі — гэта ўсьведаміць сваю ўласную тоеснасьць (ідэнтытэт). Гэта тым больш цяжка, што многія беларусы маюць з гэтым ці малыя цяжкасьці. Русыфікацыя, праводжаная царамі, а пасьля Сталінам ды ягонымі наступнікамі, нідзе не пакінула такіх глыбокіх сьлядоў, як на Беларусі. Для вялікай часткі дзесяці мільёнаў жыхароў штодзённая мова застаецца расейскай. «Адраджэньне беларускай мовы запатрабуе часу, але гэта мусіць зьдзейсьніцца. Адзінаю афіцыйнаю моваю ёсьць беларуская, але расейская — вельмі важная. Больш таго, мы маем вельмі цесныя гістарычныя й эканамічныя сувязі з Расеяй», цьвердзіць пасол. (...) На ягоную думку цесная сувязь с Расеяй застанецца яшчэ на доўга. Мы, кажа ён, павінны былі-б магчы зарабляць валюту экспартам угнаеньняў і тэкстыльных вырабаў у Заходнюю Эўропу. Аднак мы напатыкаемся на антыдэмпінгавыя рэглямэнты і на квоты ЭС, якія творачь новы мур, тым часам як нам адмаўляюць у фінансавай падтрымцы. Мы можам прадаваць нашыя тавары толькі Расеі, Украіне й Казахстану. І тым ня менш, нам заўсёды раяць ня надта апірацца на Расею». Пасол дыпляматычна адводзіць пытаньне пра магчымы расейскі ціск на Беларусь з гледзішча на энэргетычную залежнасьць. Мы, кажа ён, мусім працаваць вельмі дыпляматычна, мы імкнёмся мець добрыя адносіны з усімі суседзямі.

**Скрыжаваньне**

Як і шмат якія іншыя краіны, Беларусь уважае, што мае выключную геаграфічную пазыцыю. «Запраўды мы знаходзімся на скрыжаваньні паміж магутнымі суседзямі Расеяй, Украінай і Польшчай, якія могуць стацца пасьля цікавым рынкам збыту». Беларуская сталіца Менск мае амбіцыі, што ахопліваюць усе краіны СНД. (...) Беларусь, паводле пасла, павінна працягваць змагацца, каб стацца сапраўднаю сталіцай СНД. «Мы павінны старацца знайсьці фінансавую дапамогу, каб разбудваць адпаведную для гэтага інфраструктуру. Нашае становішча вынятковае», кажа пасол. «Мы — вельмі ветлівы народ, які ня мае канфліктаў зь нікім. Наша гісторыя й мэнталітэт, праз сувязь з Польшчай і Летувою, знаходзяцца ў Эўропе. Фактычна, мы маем шмат супольнага з Бэльгіяй: у нас такая самая колькасьць жыхароў; мы знаходзімся на скрыжаваньні разам», паводле пасла Лабунова, які ўжо бачыць перад вачыма вось Менск – Брусэль».

## *ПРОСЬБА ДА БЫЛЫХ СТУДЭНТАЎ*

**У кніжку матар'ялаў да гісторыі беларускага студэнцтва на Захадзе ў паваенным пэрыядзе патрабуюцца кароткія біяграфіі былых студэнтаў (асабістае жыцьцё, прафэсійная і грамадзкая дзейнасьць). Вельмі прашу ўсіх, хто вучыўся ў Нямеччыне, Бэльгіі, Францыі, Англіі, Італіі, Гішпаніі, Амэрыцы, Канадзе ды іншых краінах, прыслаць мне ў магчыма бліжэйшым часе весткі пра сябе (а калі хто можа, дык і ўспаміны са студэнцкіх часоў), каб уключыць іх у кніжку пра беларускае студэнцтва на Захадзе, праца над якой у завяршальнай стадыі.**

**Барыс Рагуля**
579 Willowdale Ave.
London, Ont.
Canada N5X 1J2

*Ліст у Рэдакцыю*

## ДАПАМАЖЭЦЕ БЕЛАРУСКІМ СПАРТОЎЦАМ

Пераглядаючы розныя газэты, што пішуць пра спорт, хацеў-бы выказаць пахвалу нашым спартсмэнам у розных галінах спорту. Мяне ўсьцешыў ліст у газ. «Фізкультурнік Беларусі» (12.02.95) трэнера Аляксандра Пяткевіча аб тым, што Беларусь мае таленавітых ігракоў, якія стаяць упоравень з найлепшымі ігракамі сьвету.

Вынікі маладога іграка ў настольным тэнісе Ўладзіміра Самсонава заімпанавалі цэламу сьвету. З прыемнасьцю таксама прачытаў я артыкул у газэце «Беларус» (у студзеньскім нумары) пад заг. «Паставілі Беларусь на сусьветны ўзровень». Таксама зацікавіў мяне артыкул у канадзкай газэце "Free Press" (у Вініпэгу) В. Бушука пад заг. «Беларусь заслугоўвае на нашу дапамогу».

А ці ня ўзрушыла кожнага беларуса, калі мы бачылі вынікі гімнастычных спаборніцтваў у Аўстраліі, дзе нашы ўдзельнікі-спартоўцы былі найбольш ўзнагароджаныя мэдалямі, а 19-гадовы Іван Іванко здабыў залаты мэдаль?

Цяпер ведаем, што беларускія спартсмэны рыхтуюцца да спаборніцтваў на Алімпіядзе 1996 году. Ведаем іхныя цяжкасьці і патрэбы — патрэбен вялікі высілак, шмат ахвярнасьці, патрэбныя перш-наперш фінансы.

У многіх дзяржавах ёсьць энтузіясты-спонсары, якія дапамагаюць усялякімі спосабамі гэткім спартоўцам. Але ведаем таксама, што нашым беларусам дапамога абмежаная. Вось чаму зьвяртаюся да ўсіх суродзічаў асабіста, а таксама да беларускіх арганізацыяў на эміграцыі з заклікам дапамагчы нашым спартоўцам фінансава.

Я выслаў на фонд Алямпіяды 100 даляраў і прашу ўсіх суродзічаў падтрымаць гэтую важную справу, каб нашы вынікі былі добрыя і прынесьлі славу нашай Бацькаўшчыне й народу.

**Паўло Бурдзь**

***Ад Рэдакцыі:*** Мы ахвоча зьмяшчаем своечасовы заклік сп. Бурдзя.

Дарэчы, сам ён — выдатны спартовец, шматразовы чэмпіён ў настольным тэнісе (пінг-понг). Вось тут на здымцы вы бачыце яго (справа) у ма-



мэнт атрыманьня ўзнагароды, трафейнае чашы ад дырэктара Рона Эдвардса. Фота сп. Бурдзя было апублікованае ў «Фізкультурніку Беларусі» (24.XI.94) разам з падзякаю за тысячу даляраў, якія ён ахвяраваў беларускай спартовай фэдэрацыі па настольным тэнісе.

Адрас, куды пасылаць дапамогу алімпійцам, будзе пададзены ў адным з наступных нумароў «Беларуса».

**Юрка Рапецкі. НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ Ў ХРЫСЬЦЕ. Менск, 1994. 184 сс.**

У сэрыі «Беларуская Эвангельская Царква» выйшла другім выданьнем праца Юркі Рапецкага «Новае жыцьцё ў Хрысьце».

У кнізе разьдзелы: «Як стацца хрысьціянінам паводле Дабравесьця»; «Сутнасьць евангельскай весткі»; «Важнасьці Бібліі»; «Як вывучаць Біблію» і іншыя. «Жаданьне аўтара ў тым, — сказана ў прадмове да кнігі, — каб кожны знайшоў у ёй карысныя тлумачэньні, якія дапамогуць яму перш за ўсё спазнаць Ісуса Хрыста, а потым і ўзрастаць духоўна ў Ім». Кніга выйшла накладам 50 тысячаў экзэмпляраў.

# 77-Я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

### САЎТ-РЫВЭР, Н.-Дж.

У суботу 25 сакавіка ў прысутнасьці мэра гораду сп. Томаса Тото і гарадзкіх радных перад будынкам Гарадзкое Ўправы быў падняты беларускі сьцяг. Пасьля, у залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру адбыўся традыцыйны пачастунак, на якім былі мэр гораду, радныя, госьці зь Беларусі і прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў.

У нядзелю 26 сакавіка ў царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай настаяцель а. Мячыслаў Брынкевіч адслужыў сьв. літургію і малебен за Беларускі Народ. Падчас малебна трымалі сьцягі: амэрыканскі, беларускі і вэтэранскі спсп.: Міхась Бахар, Мікалай Касьцюк і Міхась Сенька.

Папаўдні ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная ўгодкам Акту 25 Сакавіка. Акадэмія распачалася адпяяньнем прысутнымі амэрыканскага гімну. Акадэмію адчыніў і вёў сп. М. Бахар. Зьмястоўны даклад на беларускай мове і прывітальны ліст ад Прэзыдэнта Амэрыкі Біла Клінтана прачытаў старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Расьціслаў Завістовіч. Вітаў з угодкамі і ўручыў праклямацыю мэр г. Саўт-Рывэру сп. Томас Тото. Прывітальныя лісты ад беларускіх арганізацыяў прачытаў сп. М. Бахар. З прывітальным словам выступіў паэт, журналіст і аўтар кніжкі «Беларуская Амэрыка» сп. Леанід Пранчак. Прыгожую мастацкую частку падрыхтаваў кампазытар Зьміцер Яўтуховіч са сваёю дачушкаю Валеркай. Сп. Бахар падзякаваў усім за ўдзел у акадэміі і адпяяньнем беларускага нацыянальнага гімну была закончана афіцыйная частка. Пасьля адбыўся пачастунак. **М.С.**

### ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

Угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі былі ўшанованы беларускай паўгадзіннай радыяпраграмай радыястанцыі «6 ЭБА» (FM) 22 сакавіка, а ў суботу 25 сакавіка ў Беларускім Народным Доме ўгодкі адзначыла беларуская грамадзкасьць.

Прывітаўшы прысутных з нацыянальным сьвятам, урачыстую акадэмію адкрыў старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Зах. Аўстраліі Міхась Раецкі малодшы, а сп. Р.М. прачытаў прысланыя прынагодныя вітаньні ад БНФ, Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі, аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку ды Беларускага Аб'еднаньня Паўдзённай Аўстраліі.

З дакладамі на тэму дня па-беларуску выступіў Р.М., а па-ангельску Міхась Раецкі малодшы. Абодвы даклады былі ўспрынятыя вельмі добра.

Па заканчэньні афіцыйнай часткі адбыўся пачастунак, за падрыхтаваньне якога належыцца шчырая падзяка сяброўкам сп-ні З. Ёлаб, сп-ні М. Мароз і сп-чні М. Ёлаб. У гутарках, што адбыліся ў часе пачастунку, была выказаная занепакоенасьць дзейнасьцю беларускага ўраду і прэзыдэнта РБ ды сытуацыяй на Беларусі наагул.

*Канінгтон, 25.3.1995* **Р.М.**

### ЛЁНДАН, АНГЛІЯ

У суботу 25 сакавіка ў канфэранцыйнай залі Беларускай Бібліятэкі імя Фр. Скарыны была наладжана ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 77-м ўгодкам абвешчаньня незалежнасьці БНР. Акадэмію ладзіла галоўная ўправа ЗБВБ.

Адкрываючы акадэмію, у сваім прывітальным слове сп. С. Дзейка, заступнік старшыні ЗБВБ выказаў жаль, што старшыня ЗБВБ сп. Янка Міхалюк знаходзіцца ў шпіталі ў вельмі кепскім стане. Сп. А. Зданковіч адчытаў прывітальныя лісты: ад Прэзыдэнта БЦР М. Зуя й сакратара В. Цярпіцкага; Сэктару Рады БНР у Бэльгіі (старшыня Я. Жучка); Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (старшыня др. Р. Жук-Грышкевіч); Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі (старшыня Р. Завістовіч і сакратар М. Сенька); Фэдаральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі (сакратар П. Гуз). Быў таксама зачытаны «Зварот да Прэзыдэнта Беларусі А. Лукашэнкі» ад імя зьезду дэлегатаў Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі ад 21 студзеня 1995 г. (з подпісамі А. Груша – старшыня, П. Гуз – сакратар, і А. Шнэк – сябра). (Прывітаньне ад старшыні БНФ Зянона Пазьняка атрымалі па акадэміі.)

Зь вялікім зацікаўленьнем было выслуханае выступленьне праф. Джэймса Дынглі, які падзяліўся сваімі ўражаньнямі аб сучаснай сытуацыі ў Беларусі, якія ён займеў, прабываючы там тыдзень часу. (Навіны сумныя і занепакойваючыя.) З «загойваючым» словам прамовіў а. А. Надсан.

З чытаньнем сваіх празаічных твораў выступілі пісьменьнікі Ўладзімір Арлоў і Кастусь Акула.

Напрыканцы афіцыйнай часткі А. Зданковіч каротка гаварыў пра кантрастныя акалічнасьці 1918-1919 ды 1990-х гадоў, прывёў статыстычныя даведкі аб цягласьці генацыду на Беларусі, высяляньне сьведамага элемэнту, у выніку чаго нацыянальна сьведамыя беларусы становяць сёньня малы працэнт насельніцтва Рэспублікі Беларусь.

Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну акадэмія была закончана.

Сяброўскія гутаркі і новыя знаёмствы між мілымі госьцьмі зь Менску прадаўжаліся пры чарцы віна й добрай закусцы падрыхтаванай спадарынямі Дж. Дзейка, І. Гурло й Г. Зданковіч.

Прысутных было панад 50 асоб.

**А. Зданковіч**

## ГІСТОРЫКІ ПАТРАБУЮЦЬ ДАПАМОГІ

У канцы году летась выйшаў у Менску першы нумар навуковага часапісу **«Беларускі Гістарычны Агляд»** (164 сс.). Зьместам часапіс даволі багаты. Заснавальнік і рэдактар «БГА» сп. Генадзь Сагановіч піша пра найцікавейшыя адраджэньня, Аляксандар Мядзьведзеў — пра жалезны век; Расьціслаў Баравы — пра палітычнае змаганьне ў Вялікім Княстве Літоўскім; Соф'я Кузьняева — пра нацыянальную сьвядомасьць беларусаў у XIX ст. Цікавыя перакладныя артыкулы Ю. Бардаха пра дачыненьні ў ВКЛ паміж каталікамі і праваслаўнымі ды Ф. Ўайта — пра азначэньне нацыянальнасьці. У нумары зьмешчаныя ўспаміны Францішка Кушаля, у якіх апісваюцца спробы арганізаваць Беларускае Войска пад нямецкай акупацыяй. І што вельмі важна — багаты разьдзел «Рэцэнзіі».

Нумар выйшаў, дзякуючы самаахвярнай працы рэдактара, аўтараў, а таксама дзякуючы шчодрасьці фундатараў: Юрыя Станкевіча (ЗША), др. Мацьвея Смаршчка (ЗША) і менскае кампаніі «Руны». Будучыня гэтага вартаснага выданьня, аднак, ня пэўная. А дзеля гэтага «Беларускі Гістарычны Агляд» заслугоўвае на ўсякую магчымую дапамогу з боку кожнага, каму блізкая справа адраджэньня беларускае мінуўшчыны і ўмацаваньня сучасных адраджэнскіх працэсаў.

Адрас рэдакцыі «БГА»: вул. Францішка Скарыны 1, 220075 Менск, Беларусь. Тэл.: (0172) 39-54-21.

Патрабуе таксама грашовае дапамогі **«Беларускі Гістарычны Часопіс»**, рэдакцыйная рада якога зьвярнулася нядаўна лістом з просьбай да замежных суайчыньнікаў не дапусьціць да спыненьня выхаду гэтае публікацыі. Галоўны рэдактар сп. Васіль Кушнер піша ў лісьце:

«Нягледзячы на тое, што заснавальнікамі часопіса зьяўляюцца афіцыйныя дзяржаўныя структуры, рэдакцыя часопіса даволі самастойная ў сваіх поглядах і імкнецца праўдзіва адлюстроўваць гістарычнае мінулае, друкаваць перш за ўсё тыя матэрыялы, якія служаць адраджэньню нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў. Так, на старонках нашага часопіса ўпершыню на Беларусі надрукаваны поўны газэт-

*(Працяг на 6-й ст.)*

***ПАДЗЯКА ЗА ГАЗЭТНЫЯ ВЫРАЗКІ***

Рэдакцыя «Беларуса» ўдзячная за газэтныя выразкі, якія ёй прыслалі: спсп. Я. Арцюх, А. Баханчык, П. Бурдзь, К. Верабей, Б. Даніловіч, Я. Жучка, Р. Касьцюк, А. Лашук, А. Маркевіч, А. Трэмбіцкі, А. Міцкевіч, Дж. Пацэвіч, М. Раецкі, Я. Сурвіла, М. Швэдзюк, Л. Яцкевіч.

# ПЕСЬНЯРУ ЗЯМЛІ БЕЛАСТОЦКАЙ — 70 ГОД



*Віктар Швед*

Калі-б запыталі жыхароў Беласточчыны, не дадаючы ніводнага слова да гэтага загалоўку: пра каго будзе гутарка? — я ўпэўнены, што кожны беларус Падляшша, пачынаючы ад падросткаў і канчаючы на векавых бабулях, бяз хістаньня адказаў-бы: пра Віктара Шведа.

В. Швед, нясумненна, вельмі папулярны, добра зразумелы і ўспрымальны паэт на Беласточчыне, ды ня толькі як паэт. Ён і змагар за сваю «малую Радзіму», за мову ейнага народу, за ягоную долю, за зьберажэньне ад чужацкіх уплываў яго культуры.

Нарадзіўся Віктар Швед 23 сакавіка 1925 г. у вёсцы Мора, што на Падляшшы. Скончыў журналістыку і беларускую філялёгію ў Варшаве. Аўтар шасьці паэтычных зборнікаў: «Жыцьцёвыя сьцежкі», «Дзяцінства прыстань», «Дружба», «Мая зялёная Зубровія», «Родны схоў», «Вясёлка». Нагул напісаў каля трох тысяч вершаў, у тым ліку 1800 апублікаваных у беластоцкай «Ніве» на працягу 1957-1995 гадоў.

Віктара пазнаў я ў 1957 г., калі, вярнуўшыся з гулагу, валачыўся ў сваім лягерным бушлаце «ЗК» па Варшаве ў пошуках прыпынішча і напароўся прыпадкова на шыльду: «Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства». Узрадаваны такою нечаканасьцю, як мага папёрся я на адпаведны паверх з надзеяй, што нехта адчыніць дзьверы. Прывітаў мяне тадышні сакратар таварыства — «акулярнік», што паказаўся мне быццам вырваны зь іншага сьвету, адсутны душою ў акружаючай яго рэальнасьці. Паздароваўся, аднак, зь незнаёмым ветліва, а пасьля абмену кароткімі інфармацыямі — хто, адкуль? — увёў прыбыша ў сьвет беларускага варшаўскага асяродзьдзя і хуценька вярнуўся ў абшары сваёй задумы, рад прыпадковаму размоўцу. Гутарка пайшла пра яго вершы. Быў імі вельмі праняты. Дамагаўся ацэнкі свайго пачатковага паэтычнага змаганьня. Вельмі эмацыянальна перажываў свой штандаровы на той час твор «Я — беларус», што да сяньня лічыцца як крэда, якому ён верны праз усё жыцьцё:

*Я — беларус і гэтым ганаруся.*
*Усім душу сваю магу адкрыць:*
*Ніколі і нідзе не адракуся,*
*Што беларусам жыў і буду жыць.*

Пастава гэтая праяўляецца на працягу ўсіх гадоў яго творчасьці не з абавязку, але з патрэбы сэрца. Між іншым, у 1987 г. піша:

*Я сьню сябе ў народнай гушчы*
*Ля Нарвы нізкіх берагоў,*
*У нетрах Белавежскай пушчы,*
*Сярод палёў, крыніц, лугоў...*

І далей заключае: «Жыць без айчыны немагчыма». Адкрытасьць душы паэта пры першай сутычнасьці аказалася зусім для яго натуральнай. Уся ягоная паэзія і адносіны да людзей характэрныя тою шчырасьцю і беспасрэднасьцю:

*У маіх вершах сэрца насьцеж,*
*Праўдзівасьць пройдзенага, дум...*

Віктар Швед у сваёй творчасьці ня гоніцца за наватарствам, модаю. Яго асноўная турбота — быць зразумелым, выражаць душу ясна, успрымальна, для найшырэйшага кругу чытачоў. Гэта яму дасканала ўдаецца і ў тым заключаецца яго папулярнасьць. Людзі, асабліва дзеці, ахвотна спатыкаюцца з паэтам, уважна слухаюць яго. Усе больш за дзьве тысячы аўтарскіх спатканьняў адбываліся ў напоўненых слухачамі памешканьнях. Няма яму роўнага ў беспасрэдніх кантактах з чытачамі, што інсьпіруюць яго творчасьць, уплываюць на разлегласьць абшару тэматыкі, даюць магчымасьць дабіраць тэмы да зацікаўленьня асяродзьдзя, памагаюць сачыць за патрэбамі часу, накіроўваюць погляды і думкі слухачоў ці чытачоў у пажаданым кірунку. Гэтая служэбная функцыя пісьменьніцтва В. Шведа абумоўлівае характар творчасьці: патрыятычны, пазнавальны, апяваючы харастцва, пашану і значэньне прыроды, роднае мовы, зямлі і наогул навакольнага сьвету. Характар эпічнага вершаванага апавяданьня выступае ў яго паэтыцы нароўні зь лірыкай, зь яе нескамплікаванай, даступна зразумелай мэтафарай. Вось некалькі цытатаў зь вершаў:

***Вясёлка***

*Паўнеба праглынула хмара,*
*Дождж напаіў зямлі абшары.*
*Сонца ўзялося за асушку:*
*Перавязала хмарку стужкай.*

***Бярозавік***

*Адазваўся так дзядок:*
*— Ведай, дарагі сынок,*
*Не бярозавы п'еш сок.*
*У збанок сабраў ты сьлёзы*
*Акалечанай бярозы.*

***Макарка і хмарка***

*Плыве па сінім небе шпарка*
*Купчастая сівая хмарка.*
*Унучак кажа: Мілы дзеду,*
*Ты пасадзі мяне, паеду.*
*Я, дзедка, з хмаркі гляну вокам*
*На навакольны сьвет шырокі*
*І раскажу табе багата,*
*Вярнуўшыся ізноў дахаты.*

Дзіцячая яго творчасьць мае асаблівае значэньне. Выдатнае пазнаньне Шведам псыхікі дзяцей, спэцыфічнага бачаньня і разуменьня імі сьвету, яго зьвяў, валоданьне непараўнальнымі здольнасьцямі дыялёгу з малышамі, уменьне адкрыць перад імі цікавыя праявы жыцьця, яго рознакаляровасьці — гэта праўдзівы рэдка спатыканы дар Божы, які паэт належна дацаніў і пасьпяхова выкарыстаў у сваёй творчасьці. Зборнікамі дзіцячых вершаў В. Шведа карыстаецца сяньня ўся Беларусь. Шматлікія, асабліва дзіцячыя творы, сьпяваюцца. Эдуард Гойлік напісаў музыку на словы 45 вершаў. Музыку да іх піша таксама Марыя Аліфер.

Не без значэньня Шведавы дасягненьні як перакладчыка, і ня толькі паэзіі. Апрача 120 вершаў перакладзеных з польскай мовы, школьнікі паслугоўваюцца перакладам на беларускую мову падручніка геаграфіі. Іншыя пераклады чакаюць свае чаргі на апублікаваньне.

З нагоды 70-гадовага юбілею Віктара Шведа абдарвалі яго заслужана пажаданьнямі памысьнасьці і сьвядчаньнямі пашаны паклоньнікі яго таленту, творцы і дзеячы культуры зь Беласточчыны і Беларусі.

Я веру, што суайчыньнікі замежжа таксама прылучацца да аўтара гэтай сьціплай інфармацыі са шчырымі зычэньнямі паэту-юбіляру многіх гадоў здароўя і творчых сілаў.

*Варшава*

**Янка Жамойцін**

---

Народную артыстку Беларусі, стваральніцу дзесяткаў зыркіх роляў, дзяячку беларускага нацыянальнага Адраджэньня

## СТЭФАНІЮ СТАНЮТУ

шчыра вітаем зь 90-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 13 травеня сёлета, жадаем ёй добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў далейшым жыцьці.

*Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*
*Управа Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва*
*Рэдкалегія газэты «Беларус»*

*Нью-Ёрк, травень 1995 г.*



Фота з выдатна напісанай і багата ілюстраванай кнігі Аляксандра Станюты (сына) «Стэфанія». Менск: выд. «Беларусь», 1994

---

## ПАЭТЫЧНАЕ ЗАГЛЫБЛЕНЬНЕ Ў МІНУЎШЧЫНУ

**По старонках зборніка Сяргея Панізьніка «А пісар земскі...»**

Недзе ў другой палове 1970-х гадоў, у Нью-Ёрку, на сустрэчы амэрыканскіх беларусаў з гасьцём зь Менску, пісьменьнікам Іванам Чыгрынавым яму было пастаўленае пытаньне: чаму беларускія пісьменьнікі так слаба адлюстроўваюць у сваёй творчасьці гістарычную мінуўшчыну Беларусі? На што Чыгрынаў адказаў: мінуўшчыну спачатку павінны распрацаваць гісторыкі, а за імі тады пойдуць і літаратары.

Эпізод гэты прыгадаўся мне, калі я знаёміўся нядаўна са зборнікам вершаў «А пісар земскі...». Прыслаў яго газэце «Беларус» аўтар Сяргей Панізьнік — «з падзякаю беларусам Новага сьвету на маё адкрыцьцё Амэрыкі».

За загаловак зборніка ўзятыя першыя словы даўжэйшае выпіскі са Статуту Вялікага Княства Літоўскага, выданага ў Вільні ў 1588 годзе: «А пісар земский маеть по-руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншим езыком и словы». У тэрміналёгіі XVI ст. мова народу нашага звалася «руским езыком».

Панізьнікаў зборнік (144 сс.) падзелены на разьдзелы, кожны зь якіх мае выпіску са Статуту ВКЛ. У духу выпісак — і вершы, што дыхаюць багацьцем адкрытых стагодзьдзяў, вераю ў жыцьцяздольнасьць свайго народу. Кніга — ня толькі сьветчаньне паэтавага таленту і тэматычнае скіраванасьці ягонае музы, але й паказальнік плённае працы беларускіх гісторыкаў.

Вершы зборніка «А пісар земскі...» зьнітаваныя з глыбіннай мінуўшчынай роднага краю, як рэкі зь зямлёй і дрэвы з глебай. Яны напоўненыя духам гісторыі, як травеньскі луг напоўнены водарам красак.

У заключным разьдзеле зборніка знаходзім «Дыярыуш майго адкрыцьця Амэрыкі», прысьвечаны місіс Дагмары Волкат — перакладчыцы, паэтэсе, выкладчыцы ўнівэрсытэту ў г. Калумбусе ў штаце Агаё. Колькі гадоў таму паэт наведаў сп-ню Волкат, а заадно пабыў і ў некаторых беларускіх асяродках, у тым ліку ў Нью-Ёрку. Пра гэты апошні горад паэт піша:

*Нью-Ёрк як выклік. Горад сьлічны.*
*Стрыптызы стрытаў, авеню...*
*Хачу ўявіць сябе: я — клічнік*
*жыцьця, імя якому «Нью».*

І запраўды, вершы Сяргея Панізьніка — клічнікі, што заклікаюць да новага жыцьця — жыцьця духова паўнейшага, багацейшага, калі грудзі ўбіраюць ня толькі ўдушлівае курапацка-чарнобыльскае паветра, але й асьвяжаючага азонам прывабнай даўніны, якая мацуе веру ў заўтрашні дзень.

**Янка Запруднік**

---

## КАНАДЗКІЯ ЛЕКАРЫ БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ

Унівэрсытэт Заходняга Антарыё (УЗА), у якім шмат гадоў працаваў выкладчыкам нутраной мэдыцыны др. Барыс Рагуля, актыўна падключыўся да справы дапамогі хворым беларускім дзецям. Газэта «Беларус» паведамляла ўжо (№№ 421, 423) аб арганізоўванай у Менску дзіцячай дэнтыстычнай клініцы.

Як даведваемся з матар'ялу, перададзенага газэце «Беларус» прафэсарам УЗА Чарльсам Руудам, выкладчыкам расейскае гісторыі, які зацікаўлены таксама ў Беларусі, запачаткаваны ў сакавіку сёлета яшчэ адзін праект дапамогі беларускім дзецям.

Двое тэрапістаў УЗА, др. Джон Польгар і праф. Сандра Гобсан, якія пабывалі ўлетку 1994 г. у Менску, пачалі акцыю збору грошай на дапамогу лекаваньню беларускіх спаралізаваных дзяцей. Акцыя збору грошай праводзіцца супольна са створанай нядаўна ў Менску асацыяцыяй бацькоў інвалідных дзяцей.

Фонды на гэтую дабрачынную мэту зьбіраюцца сярод царкоўных прыходаў Канады, а таксама шляхам праводжаньня гэткіх мерапрыемстваў, як

*(Працяг на 6-й ст.)*

## ЗЬЕЗД НАВАГРАДЦАЎ СЬВЕТУ

Згуртаваньне наваградцаў сьвету (ЗНС) склікае свой першы зьезд, які адбудзецца ў Навагрудку 24-25 чэрвеня сёлета, каб адзначыць 950-годзьдзе гэтага славутага гораду, першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Паводле Звароту арганізацыйнага камітэту зьезду, 24 чэрвеня плянуецца правесьці навукова-асьветную канфэрэнцыю аб ролі краю і яго людзей у разьвіцьці беларускай дзяржаўнасьці, мовы, культуры, аб іх укладзе ў сусьветную цывілізацыю. Увечары таго-ж дня будзе тэатральнае прадстаўленьне, а пасьля — Купальле.

Другі дзень, 25 чэрвеня — цалкам сьвяточны, як сказана ў Звароце. «Спадзяёмся, ён уздыме на духу эмацыяльна, бо культурна-мастацкая праграма рыхтуецца ўнікальная і шматстайная... Гэтую падзею павінен падмацаваць і кірмаш вырабаў народных умельцаў, а таксама выстаўка твораў прафэсійных мастакоў. Для ахвочых па папярэдніх заяўках наладжваецца некалькідзённая вандроўка па славутых мясьцінах Беларусі».

Усіх, хто цікавіцца пытаньнямі сьвяткаваньня юбілейнай даты Навагрудку, правядзеньня Першага зьезду наваградцаў сьвету просяць зьвяртацца на адрас:

Рэспубліка Беларусь, 220053 Мінск,
Даўгінаўскі тракт, 52-9,
тэл./факс 37-05-44 (х.), 23-98-51 (сл.)
Яўгену Лецку — старшыні Рады ЗНС.

231400 Навагрудак, вул. Гродзенская-2,
тэл. (0597) 2-14-70 (сл.)
Тамары Вяршыцкай — старшыні Ўправы ЗНС.

Адказны за правядзеньне канфэрэнцыі дырэктар Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі Касьцюк Міхаіл Паўлавіч.

220072 Мінск, вул. Францішка
Скарыны-1.
тэл. 39-48-70 (сл.)

Разьліковы рахунак ЗНС:
Р/р 1468693 у Цэнтральным аддзяленьні АК БелПББ г. Менску. Код 362.

## КАНАДЗКІЯ ЛЕКАРЫ

*(Заканчэньне зь 5-й ст.)*

супольныя абеды з бацькамі дзяцей-калекаў, удзелам дзяцей у мыцьці аўтамабіляў і да гэтага падобнае. За так здабытыя грошы набываецца патрэбнае абсталяваньне для тэрапэўтычнага цэнтру ў Менску.

Канадзкія ініцыятары гэтага праекту супрацоўнічаюць у Менску з доктарам-нэўролягам Канстанцінам Бойкам. Канадцы мяркуюць запрасіць да сябе на практыку беларускіх спэцыялістаў для азнаямленьня з мэтадамі лячэньня ў Канадзе. Ад часу распаду СССР УЗА правёў ужо некалькі праграмаў супрацоўніцтва зь беларускімі лекарамі.

Апрача згадванай ужо дзіцячай дэнтыстычнай клінікі, факультэт грамадаведных навук УЗА ахвяроўвае пяць кампютэраў і друкарку менскаму Дзяржаўнаму Лінгвістычнаму Ўнівэрсытэту. Улетку УЗА пашле ў Менск свайго спэцыяліста, каб дапамагчы ўсталяваць кампютэр.

## ГІСТОРЫКІ ПАТРАБУЮЦЬ ДАПАМОГІ

*(Заканчэньне з 4-й ст.)*

ны варыянт стэнаграмы Ўсебеларускага зьезду 1917 году. Мы — адзіны часопіс, які поўнасьцю надрукаваў рэзалюцыі Першага зьезду беларусаў сьвету. На навуковы ўзровень узьнятыя праблемы эміграцыі беларусаў і жыцьцё беларускай дыяспары за мяжой, праблемы заснаваньня і разьвіцьця Вялікага Княства Літоўскага, гісторыя беларускіх княстваў, адносіны з памежнымі дзяржавамі і многія іншыя».

Бясспрэчна, будзе вялікая шкода, калі-б выданьне гэтае спыніла свой выхад. Газэта «Беларус» заклікае чытачоў, а таксама беларускія арганізацыі і ўстановы ў замежжы аказаць дапамогу беларускім гісторыкам, якія шмат спрыяюць духоваму адраджэньню Бацькаўшчыны.

Адрас рэдакцыі «БГЧ»: 220030 Мінск, вул. Чырвонаармейская, 6. Тэл.: (0172) 29-35-81.

### *ДВУМЕСЯЧНІК «КРЫНІЦА ЖЫЦЬЦЯ»*

Саюз Евангельскіх Хрысьціян-Баптыстаў пачаў выдаваць рэлігійны часапіс «Крыніца жыцьця» (выходзіць 6 разоў на год; тыраж — 10 тыс.). Бальшыня матар'ялаў у часапісе на расейскай мове, але трапляюцца артыкулы, хроніка і вершы па-беларуску. Артыкул Юркі Рапецкага, напісаны сучаснай літаратурнай мовай пад заг. «Прасьце, шукайце і стукайцеся» (у нумары 2/6 '95), зьмешчаны з заўвагаю: «По желанию автора статья печатается на старобелорусском языке».

Заўвага гэтая паказвае, якая далёкая яшчэ дарога перад некаторымі братамі ў Хрысьце, што заблудзіліся ў гушчары русыфікацыі, у вяртаньні назад да культурнае спадчыны сваіх багабойных продкаў.

Той факт, аднак, што некаторыя матар'ялы ў часапісе зьмяшчаюцца па-беларуску, жывіць надзею, што, можа, дзеці сучасных зрусыфікаваных беларусаў вернуцца ўсё-ж да мовы сваіх дзядоў і ня будуць называць яе «старобелорусским языком», а назавуць сваёй роднай мовай.

### *БЕЛАРУСКІЯ ДЗЕЦІ НА АЛІМПІЯДЗЕ*

Паводле ліста, дасланага др. Раісе Жук-Грышкевіч, старшыні Беларуска-Канадзкага Каардынацыйнага Камітэту, група беларускіх школьнікаў возьме ўдзел у матэматычнай алімпіядзе ў Таронта. Маладыя матэматыкі прыбудуць у Канаду 16 ліпеня і прабудуць там да 25 ліпеня. Дакладнейшую інфармацыю можна атрымаць у Таронта па тэлефоне (416) 408-7977 ад Dikran Ohannessian, Vice-President, Individual Marketing of Services.

## УСПАМІНЫ

**Натальля Орса**

*(Пачатак і працяг у №№ 411, 415 і 418)*

### КУПАЛА Ў ПРАЗЕ

Аднойчы завядомілі студэнтаў, што адбудзецца сход і просяць усіх зьявіцца, бо вельмі важная справа — прыедуць госьці з бацькаўшчыны: Янка КУПАЛА й іншыя пісьменьнікі. Усе вельмі ўсьцешыліся, пачалі даваць розныя прапановы, каб як найлепей сустрэць дарагіх гасьцей. Матарыяльны стан студэнтаў быў вельмі цяжкі за выняткам пару асобаў, якім памагалі бацькі з дому, таму ня было й мовы аб тым, каб зрабіць хоць які-небудзь пачастунак.

Вырашылі сустрэць іх песьняй «Ад веку мы спалі» і тут-жа пачалі практыкавацца сьпяваць. Аднойчы посьле лекцыяў прыходжу ў студэнцкі дом і бачу нашыя дзяўчаты й хлопцы ажыўлена гавораць каля дошкі, на якой вывешваюць абвесткі. Адразу мігнула думка — «прыехалі». Я туды. Кожны хацеў прачытаць сам, каб пераканацца ў праўдзівасьці абвесткі. «-Павінны сабрацца ў залі, дзе адбываюцца нашы зборкі, на 6-ю гадзіну.» Так усе перажывалі гэтую падзею, што калі мы зь сяброўкай прышлі перад 5-й гадзінай, то там ужо была амаль уся студэнцкая грамада і ўсе нэрвова паглядалі на дзьверы. Хутка пасьля 6-й, студэнт, якому даручылі пільнаваць каля ўваходу, гукнуў — «Ідуць!» Усе ўсхапіліся й стаялі, каб з пашанай сустрэць дарагіх гасьцей. Адзін студэнт падбег і адчыніў шырэй дзьверы і праз момант паказалася постаць нявысокага, досыць поўнага чалавека ў бранзовым убраньні ў акулярах, а за ім ішоў бляндын. . . і я адразу пазнала таго самага Купалу, што сустракала ў Маскве. За Купалам ішлі іншыя. Як толькі Купала пераступіў парог, грымнула «Ад веку мы спалі». Ён, як відаць, не спадзяваўся гэтага — адразу пачаў сьпяваць з намі, а потым сьціх, і як мы кончылі першую зваротку, гукнуў: «Як маецеся!?» А мы й стаялі з адкрытымі ратамі, каб сьпяваць наступную. Усе заўважылі, што ён не хацеў, каб сьпявалі далей.

Пачакаўшы, пакуль яны занялі свае мейсцы, мы паселі. Адзін студэнт прывітаў гасьцей ад нас і пажадаў ім добра правесьці час і пазнаёміцца з горадам. Потым гаварыў Купала. Усе мы зь вялікім напружаньнем слухалі, бо спадзяваліся, што ён нешта надзвычайнае скажа, нешта патрыятычнае. А ён сказаў, што прыехалі ў Карлсбад лячыцца й вырашылі адведаць нас. Яшчэ сказаў, што навуку ён атрымаў «самапасам»; расказаў што хворы на печань, а на заўвагу аднаго студэнта, што ў гэтым выпадку, ня можна піць, адказаў — «Ці-ж вы ня ведаеце, што клін трэба выганяць клінам?» Хлапцы адказалі дружным сьмехам, аднак усе адчулі нейкую стрыманасьць, недагаворанасьць, насьцярожанасьць. Наступны гаварыў Міхась Чарот, малады хударлявы хлапец, — ён прачытаў нам сваю паэму «Босыя на вогнішчы». Купаліха на сустрэчы ня была, — толькі мужчыны: Купала, Зарэцкі, Чарот і Цішка Гартны.

Пасьля гэтай сустрэчы хлопцы пару разоў хадзілі да іх у гатэль, каб пагаварыць, але госьці ўсё, альбо ня мелі часу альбо кудысь ішлі, альбо проста ў гатэлі гаварылі, што іх няма дома — дык хлопцы потым пераcталі й хадзіць. Нехта са студэнтаў запытаў, калі сустрэліся прыпадкова, дзе яны ўсе ходзяць? Чарот сказаў: «Ходзім ізучаць нізы». Доступ да іх меў толькі адзін студэнт, што першы даведаўся пра іхны прыезд. Гэты студэнт пахадзіў зь Любчы ў Наваградчыне. Тут у Амэрыцы я даведалася, што па сканчэньні студыяў ён паехаў у Менск, там быў арыштаваны й па дарозе ў ссылку расстраляны на нейкай станцыі. Пакойны сп. С-к ехаў зь ім у тым самым вагоне і мне гэта расказваў.

Два дні пасьля сустрэчы перадалі мне, што сп. Вяршынін мае да мяне справу й просіць, каб зайшла да яго. Пайшла, а там сядзіць Купала й нейкая жанчына. Пазнаёміліся. Я запытала Купалу, ці ён ня помніць дзяўчыну, што ў Маскве прыходзіла на сьпеўку. Падумаў трохі, усьміхнуўся ды кажа: «помню, так, так помню! Мне вельмі спадабалася, як яна на маё запытаньне — што кажуць як уваходзіць у хату ўдзень? — адказала, што ўдзень ніхто ня ходзіць па хатах, бо ўсе працуюць». Запытаў, ці ня ведаю я тую дзяўчыну, памаўчаў мамэнт, а потым павярнуў галаву ў мой бок і з усьмешкаю сказаў: «А ці ня ты гэта часам была?» — «Так, так, дзядзька Купала, гэта была я!» — і мы шчыра прывіталіся. — «Чаго-ж ты плачаш?» Тады ў Маскве плакала і цяпер плачаш! – «Тады я плакала бо пра маму гаварыла, а цяпер з радасьці, што йзноў з Вамі сустрэлася». Вось дзе давялося спаткацца ізноў, праз гадоў 9 ці 10, за тысячу кілёмэтраў, зноў у чужой краіне. Тут сп. Вяршынін расказаў, як прыехала нелегальна і як мяне хлопцы пакінулі на граніцы, але тое ўжо, кажа, прайшло. — Цяпер ты дапажы Купалісе — вы пагаварэце, а мы пойдзем пакурыць.

Купаліха цікавілась апекай і выхаваньнем анармальных дзяцей і хацела паглядзець якую-небудзь установу, школу або прытулак для анармальных. Сп. Вяршынін, ведаючы, што я ў парадку лекцыяў наведвала такія ўстановы парадзіў ёй мяне. Я ахвотна згадзілася, бо прыемна было быць яе спадарожніцай. Былі якраз летнія вакацыі — на лекцыі хадзіць ня трэ было, дык і калясілі па Празе й яе ваколіцах.

Першы дзень быў вельмі афіцыйны, але потым устанавіліся прыемныя, цёплыя, сардэчныя адносіны. А пераход ад афіцыйнасьці да сардэчнасьці паўстаў пасьля таго, як адзін чалавек на вуліцы зьвярнуўся да яе з запытаньнем: як папасьці на *Вацлаўскае намесьце?* Яна страшэнна занепакоілася і хацела вярнуцца дамоў, бо была пераканаяная, што гэта «сэксот». Я ня ведала што гэта сэксот, дык яна мне вытлумачыла. Колькі я ні ўгаварвала яе нічога не памагае, а нарэшце: — «Чаму, кажа, ён зьвярнуўся да мяне, а не да цябе?» — Таму што вы старэйшыя й былі бліжэй да яго». Трохі паспакайнела а потым гаворыць — «Мы ўжо адвыклі ад такога жыцьця». Пачала расказваць, як хлапцы (пісьменьнікі) пасьля сустрэчы са студэнтамі з абу-

рэньнем расказвалі, як студэнты ім задавалі такія пытаньні, што ня можна было адказаць. Купала ўспрыняў гэта за нармальную зьяву ў суадносінах студэнтаў са старэйшымі, але маладыя хлопцы лічылі гэта за правакацыю, асабліва іхны «ахраньнік». На маё запытаньне хто «ахраняе» і ад чаго, адказала: «Ад вас, а хто — самы ведаеце». — «Гэта мусіць той, што ў акулярах?» — толькі апусьціла галаву, а потым дадала, што ён пісьменьнік. — «Як яго прозьвішча?» — «Я нічыйго прозьвішча ня знаю». Пасьля такога адказу я нічога больш ня пытала.

Аднаго разу, ідучы з прытулку для анармальных, зайшлі ў магазын з гатовай вопраткай. Яна купіла сабе дзьве добрыя блюзкі ды выказала жаданьне яшчэ што-небудзь купіць, але баялася, каб хто не пабачыў, бо была моцна перакананая, што за ёю сочаць. Я парадзіла выбраць патрэбныя рэчы, а я буду плаціць і вазьму пакунак. Яна-ж вырашыла, што лепей, каб я прышла адна празь дзень-два і ўзяла ды нікому не казала. Разьвіталіся каля ейнага гатэлю. А я, каб не зрабіць памылкі, завярнулася ды пайшла ў магазын, набрала выбраных рэчаў на ўсе грошы, што яна мне дала, і на другі дзень рана занесла ёй. Яна пачала распытваць мяне, ці хто бачыў, як я брала, ды што я сказала прадаўчыні і г.д. Бачучы, што яна вельмі перажывае я яе супакоіла, што ў краме сказала, што гэта мая цётка, жыве на Падкарпацьці й карыстаецца дома толькі ўкраінскаю мовай, а таму ня ўмее гаварыць па-чэску. Яна была вельмі задаволена і сказала: —«Ну то й называй мяне «цёткай». Ад гэтага часу я пачала яе называць цёткаю. — «Трэба-ж пахваліцца, што мы прыдбалі», — з гэтымі словамі яна накіравалась у бок Купалы, а я за ёю. — «Добры дзень, дзядзька Купала!» — Ён усьміхнуўся, а потым кажа: «Цяпера-ж ніхто ня ходзіць па хатах, бо ўсе працуюць на полі». — «Дзядзька не забыўся гэтага, а мне сорам, што я тады так сказала». — «Не, не забыўся — я тады можа з паўгода ўсё расказваў пра гэты выпадак знаёмым». Агледзеўшы пакупкі сказаў, каб купіла яшчэ што патрэба: «Ідзі, ідзі, ня бойся, ніхто за табой ня ходзіць, толькі пастарайся, каб з гэтым «шэршнем» ня сустрэлася. Я зразумела, пра якога «шэршня» яны гаворыць, але зрабіла выгляд, што ня чула. Гэты дзень мы хадзілі па магазынах, а потым сп-ні Купаліхе захацелася пабыць у чэскім кіно.

На наступны дзень цётка Купаліха запранавала выехаць за горад і правесьці дзень на сьвежым паветры. Купала сказаў, што хіба заўтра, бо ён сягоньня ня можа. Я параіла паехаць і агледзець сьляпінец (прытулак для сьляпых), гэта за горадам у вельмі прыгожай мясцовасьці. Яна ахвотна згадзілася са мною і мы паехалі. Ехалі аўтабусам да апошняга прыпынку, а потым ішлі яшчэ трохі. Быў гэта вялічэзны будынак на ўзгорку, а за ім лес. Каля будынку сям-там невялікія кусьцікі і ўсё пакрыта зялёнай травой. Калі мы пасьля візыту выйшлі, то цётка Купаліха прасьлязілася: «Вот дзе гіронія лёсу — жыць у такой прыгожай мясцовасьці і нічога ня бачыць. Якія яны нешчасьлівыя! Добра што хоць урад імі апякуецца. Усе чысьценькія, добра накормленыя, а ў нас...» Так перанялася ўсім пабачаным, што не магла гаварыць. Я запрапанавала сесьці на траве. Села яна, а праз хвілю села я — поруч зь ёю. «Не, не, сядзь лепш проціў мяне — ты будзеш бачыць за мною, а я за табою, каб нас хто не падслухаў». Нейкі мамэнт сядзелі моўчкі, а потым яна сказала, што ня хоча больш нікуды ісьці і глядзець, як людзі турбуюцца аб сваіх няшчасных дзецях: — «Усёроўна я не дапамагу нічым нашым, толькі буду перажываць, што ў нас ня так як дзесь. У нас вельмі многа дзетак бяздомных, бяздольных. Вывезеных бацькоў дзеткі пааставаліся, ня маючы ніякай апекі — страшэнна бядуюць, ядуць што папала». Гаварыла што Купалаву радню павывозілі, а некаторыя дзеці засталіся ў іх. Відаць, ёй хацелася выгаварыцца, выліць трохі сваёй бяды-гора, а я, баючыся, каб яна ня сьціхла, моўчкі слухала, і ня толькі пытаньнем, але рухам не хацела яе спудзіць. Расказвала пра недахопы прадуктаў, пра арышты, вывазы людзей са сваіх хатаў, пра ўпадак маралі і людзей, пра Коласа, як яго амаль кожную ноч трусілі пэўнага часу і ён нічога ня пісаў акрамя, «Чытанак для беларускіх дзетак». Наракала на маладых пісьменьнікаў, што не шанавалі старэйшых, а ўсё стараліся зрабіць ім прыкрасьць, каб дагадзіць уладам. Потым расплакалася і праз сьлёзы гаварыла, як ім цяжка жыць увесь час пад страхам, асабліва як надыходзіць ноч, бо прыходзяць, трусяць, арыштоўваюць, вывозяць ноччу. На маю прапанову застацца ў Чэхіі сказала: «Не, мой Янечка ня згодзіцца».

На наступны дзень паехалі за горад. Купала захацеў пабачыць поле, пабыць далей ад людзей. Як пабачылі дарогі абсаджаныя сьлівамі, дык пачаў распытваць, хто садзіў, а хто зьбірае плён. Я сказала, што няўпэўненая хто садзіў, але зьбірае кожны каля свайго поля, дык думаю, што й садзілі гаспадары кожны перад сваім полем. Падумаўшы мамэнт, памахаў галавой і толькі прамовіў: «Ну і хітрыя людзі, умеюць выкарыстоўваць ўсё».

Паселі на траве. Купала лёг на сьпіне, падлажыў рукі пад галаву ды кажа: «Трэба добра ўглядзецца ў неба, ці яно такое як наша». Я сказала, што не такое, бо у нас жаўронкі сьпяваюць, а тут я ніколі ня чула жаўронкаў, — згадзіўся са мною. Пачаў распытваць пра студэнтаў, пра жыцьцё ў Чэхіі, пра навуку. Мяне зьдзівіла пытаньне: «Хто гэты студэнт, што нас вітаў першы?» Я расказала яму, што знала пра таго студэнта; глянуў на жонку, потым кажа: — «Я так і думаў, значыць і ў вас сярод студэнтаў ёсьць такія, як і ў нас. Ох, людзі, людзі, калі-ж апомніцеся, калі?» Запытаў мяне, што я думаю рабіць, як скончу. Я сказала, што яшчэ не надумалася. Ён пагледзеў на жонку, а потым на мяне, хацеў нешта сказаць ды стрымаўся, дык жонка за яго сказала: «Ня ўздумайце толькі ехаць у Менск», а ён паправіў: «Да нас Вас будуць падгаворваць ехаць, сьцеражэцеся, не паддавайцеся ўгаворам». Потым пачаў распытваць пра жыцьцё нашых людзей пад Польшай. Чаму наша моладзь едзе ў чужыя краіны, а ня вучыцца ў Вільні? Распытаваў пра Луцкевіча, Ластоўскага й іншых. Я адказвала што знала. Відаць, гэтыя спаведаньні яго вельмі ўзрушылі. Сьціх і пару хвілінаў маўчаў. Я, каб зрабіць яму прыемнасьць, расказала, як яго «Паўлінка» наведвала вёскі і ўсюды была вітаная, як найлепшая госьця. Зварухнуўся — «Так? О, значыць жыве дух беларускі ў народзе!» — «Так, Яначка, жыве, мы памром, а народ беларускі будзе жыць», — сказала цётка Купаліха.

Прыемна было паляжаць на зялёненькай мураўцы, але мусілі вяртацца, сонца ўжо ідзе адпачываць. Купаліха пачала йзноў прасіць, каб я хаця каму не сказала пра нашую гутарку. Я старалася запэўніць яе, што стрымаю дадзенае слова. І стрымала. Прайшло ўжо 56 гадоў, а я нікому й слова не сказала аб маіх гутарках з Купалам. Аб іх знала толькі адна асоба — мой пакойны муж, які часта прыпамінаў мне пры гутарках з другімі: «Ты абяцала».

У жыцьці чалавека 56 гадоў вялікі адсяг часу, а сустрэча гэтая такая сьвежая ў маёй памяці — як-бы гэта было ўчора.

Купала наш належаў да тыпу людзей, што сваім сьціплым захаваньнем, абыходжаньнем зь людзьмі, прыцягваюць да сябе, змушаюць задумоўвацца над іхнімі словамі. Ён не агітаваў, ня крычаў, не падгаворваў і не прасіў, а як магнітам прыцягваў. Ён любіў свой Край, свой народ, сваю мову, звычаі. Тады, у чужым краю ён балесьне перажываў за свой народ. Гэта ён мне сказаў: «Наш народ мучаньнік».

Трэцяя сустрэча з Купалам адбылася ў 1940 годзе, у Наваградку ў школе. Загадалі каб усе настаўнікі са сваімі клясамі йшлі ў гімнастычную залю, размясьціліся і чакалі гасьцей, а якіх — не сказалі. Адна настаўніца шапнула мне, што прыехаў Купала й Лынькоў. Уладкаваліся й чакаем. А я ўсё думала, як мне зь ім пагаварыць, як адыйсьці? Раптам прыпомніла, што ў Празе ён гаварыў, што ў іх вельмі часта знаёмящца ўжо знаёмыя людзі — пры сустрэчы пры іншых робяць выгляд, што ніколі не сустракаліся. От-жа вырашыла, што й я гэтак мушу захавацца. Увайшоўшы, яны прывіталіся агульным «Добры дзень». Праз момант Купала пачаў прыглядацца да моладзі й тут нашы пагляды спаткаліся. Я пабачыла, што ён пазнаў мяне, ды трошкі кіўнула галавою. Усьміхнуўся, але ніякага руху не зрабіў. Праз пару хвілінаў падышоў да аднэй групы, падаў руку настаўніку, сказаў нешта вучням і накіраваўся да мяне. Падаў руку, запытаў, ці добра вучацца, а потым прыглушаным голасам сказаў, што хацеў-бы пагаварыць са мною, але ня мае часу. Я сказала, што мы ведам пра яго хваробу, што ўвесь народ перажывае. Міг падумаў, а потым ткнуў вялікім пальцам сабе ў грудзі ды сказаў — «Што-б ні сталася, а Купала, тут, застаўся Купалам». Падыйшоў яшчэ да аднэй клясы ды разьвіталіся. На гэтым закончылася сустрэча, аб якой дазваляю судзіць вам.

*Нью-Ёрк 1980*

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРЭЗЫДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. ЛУКАШЭНКУ

*(Заканчэньне з 2-й ст.)*

Літвы *не патрабаваў жоднага рэфэрэндума*, але адразу назначыў *Асобную Камісію* адзіным заданнем якой было *Аднаўленне Літоўскай Мовы* — што і было зроблена ў параўнальна скорым часе...

Таксама і цяпер, калі Літва аб'явіла сваю незалежнасць некалькі гадоў таму назад, літоўская мова адразу і аўтаматычна стала дзяржаўнай мовай Літоўскай Рэспублікі і на гэтай мове гутараць лідары ўсіх палітычных плыняў — а што-ж робіцца з нашай беларускай мовай ў нашай Рэспубліцы Беларусь???

Мы знаем што прыхільнікі «единой і неделимой» маскоўскай імпэрыі і таксама некаторыя, апанаваныя «псіхалёгіяй рабства» асобы беларускага паходжання, *моцна ненавідзяць так незалежнасць Беларусі — як і беларускую мову, гісторыю ды культуру і гэтыя імпэрскія адпадкі* нават маюць нахабства дамагацца «рэфэрэндума» па справе беларускай мовы і нацыянальнай сымволікі ў Рэспубліцы Беларусь... СОРАМ, ПАЗОР І ГАНЬБА!

Ці Польшча, Расея, Літва ды Фінляндыя рабілі рэфэрэндум каб знаць якая мова павінна быць дзяржаўнай ў іхніх краінах??? Ніколі!!! А ці беларускі народ ёсць горшым за рускі, літоўскі ці японскі??? Таксама НЕ!!! Дык ёсць натуральным спадзявацца і верыць што ў Польшчы — польская, ў Фінляндыі — фінляндская, Японіі — японская і ў Рэспубліцы Беларусь заўсёды будзе дзяржаўнай *беларуская мова* і беларускі народ таксама павінен заўсёды ганарыцца сваёй тысячагадовай нацыянальнай сымволікай, бел-чырвона-белым сцягам і гэрбам «Пагоня»!!!

На беларускай дзяржаўнай мове пісаліся славутыя Статуты-Канстытуцыі ўжо 500 гадоў таму назад і трэба запэўніць што на беларускай мове будуць пісацца ўсе будучыя Дзяржаўныя Акты Рэспублікі Беларусь!!!

Трэба таксама прыпомніць чужынцам жывучым ў Рэспубліцы Беларусь што беларусы пражываючыя ў другіх краінах света, ўключаючы Расею, вывучаюць і шануюць мовы і законы гэтых краін — і чужынцы ў Беларусі таксама мусяць вывучаць і шанаваць беларускую мову і законы... Іначай і Быць Няможа!!!

Што тычыцца Вашага нэгатыўнага падыходу да беларускай-дзяржаўнай мовы, дык трэба прызнацца што за Вамі і Вашай дзейнасцю цяпер наглядаюць шматлікія аўстралійскія журналісты і палітыкі, і некаторыя журналісты ўжо займаюцца збіраннем матар'ялу для англамоўнай кніжкі пра жыццё і канвульсы маладой Рэспублікі Беларусь і дзейнасць Яе першага, усенародна выбранага, Прэзідэнта... Ёсць розныя і цікавыя прапановы і сугэсты што да назову гэтай кніжкі — і адзін з тытулаў якія прапанаваліся зацікаўленымі журналістамі ёсць: "The President Who Hates His Country" — або па беларуску: «Прэзідэнт Каторы Ненавідзіць Сваю Краіну»...

Будзем спадзявацца што гэты тытул не будзе ані патрэбным — ані рэальным ў скорым часе!

Буду чакаць ад Вас парады і інфармацыі, за якія буду ўдзячным!

Няхай Жыве Незалежная Рэспубліка Беларусь!!!

З павагай

**Алесь Алехнік**
Гэнэральны Сакратар

## ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ПРЭСА Ў БЕЛАРУСІ

*(Паводле «абвесьніка» «Навіны рэлігійнага жыцьця на Беларусі». Сакавік 1995)*

**У сярэдзіне лютага Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь зарэгістравала бюлетэнь «Каталіцкія навіны», заснавальнікам якога выступіла Менская Архіепархія Рымска-Каталіцкай Царквы. Упяршыню на Беларусі будзе выходзіць каталіцкі афіцыёз. Плянуецца, што бюлетэнь стане выдавацца на беларускай і польскай мовах двойчы на месяц на 24 старонках часопіснага фармату.**

Саюз эвангельскіх хрысьціянаў-баптыстаў выпусьціў у 1994 г. чатыры нумары часопіса «Крыніца жыцьця». Частка матэрыялаў публікуецца па-беларуску, рэдакцыя знаходзіцца ў Кобрыні.

Некалькі каталіцкіх газэтаў і часопісаў зьявіліся ў мінулым годзе. У Баранавічах мясцовая рыма-каталіцкая парафія разам з айцамі вэрбістамі выдае культурна-рэлігійны часопіс місіянэраў Божага Слова «Дыялог». З кожным нумарам часопіс становіцца ўсё аб'ёмней і павялічвае наклад — цяпер ён складае 8 тысячаў. Публікуе шмат артыкулаў для сям'і, на тэму экумэнізму, хрысьціянскага выхаваньня, ёсьць асобная рубрыка для дзяцей. Мовы выданьня — расейская (асноўная), беларуская; з пачатку 1995 г. дадалася таксама польская.

Дабрачынны фонд «Маці Божая Фацімская» ў Менску з дапамогай замежных партнэраў пачаў выдаваць аб'ёмную штомесячную газэту "Ave Maria". Газэту рыхтуюць сьвецкія рыма-каталікі, яна выходзіць па-беларуску накладам 5 тысячаў. Таксама фонд мяркуе выдаваць квартальны часопіс «Наша вера», а нядаўна анансаваў выпуск на беларускай мове кнігі папы Яна Паўла II «Пераступіць парог надзеі».

Нядаўна выйшаў першы (і апошні) за 1994 г. нумар часопіса Беларускай каталіцкай грамады «Хрысьціянская думка». Як і папярэднія, гэты нумар багаты на гістарычныя матэрыялы. Прыходзіцца толькі шкадаваць, што рэдакцыя часта публікае працы, якія ўжо выходзілі кнігамі. Гэта тычыцца працаў Івана Саверчанкі «Язэп Вельямін Руцкі» («Апостал яднаньня і веры» — Навука і тэхніка, 1994), Аўгустына Аўфрая «Сьвяты Ян Боско» (Тэст, 1993). Апошнім часам Грамада значна скараціла выпуск кніг.

Сьціплы па аб'ёму «Веснік надзеі» выпускае рыма-каталіцкая парафія ў Бабруйску, таксама інфармацыйны абвесьнік «Сафія» раз на месяц выдае моладзь зь менскай парафіі Сьвятой Тройцы.

У сакавіку мусіць выйсьці першы нумар газэта грэка-каталікоў «Царква», якую заснавалі дзьве менскія уніяцкія парафіі. Выдаўцом газэты стане выдавецтва «Унія».

Сёньня немагчыма без датацыяў выдаваць на Беларусі пэрыёдыкі (гэта ня тычыцца рэклямнай і, на жаль, бульварнай прэсы). Фінансавыя цяжкасьці сталі прычынай таго, што апошнім часам закрыліся праваслаўныя «Гродненские епархиальные ведомости», газэта «Званьніца» у Заслаўі, каталіцкія часопісы «Унія», «Рыцар Беззаганнай», «Вера і жыцьцё», пратэстанцкі часопіс «Христианская жизнь».

Можна чакаць, што ў 1995 г. зьявяцца яшчэ новыя рэлігійныя пэрыёдыкі, а тыя, што ўжо існуюць, павялічаць абсяг і наклады. Трэба чакаць і зьяўленьня нарэшце выданьняў для дзяцей, моладзі, якіх пакуль няма.

Можна ўпэўнена сьцьвярджаць, што сёньня рэлігійная прэса на Беларусі перажывае сапраўдны ўздым. У 1994 годзе зьявілася колькі новых хрысьціянскіх газэтаў і часопісаў, многія зь іх змаглі значна павялічыць свае наклады, абсяг, палепшыць якасьць паліграфічнага выкананьня.

Відавочным лідэрам сярод праваслаўных пэрыёдыкаў зьяўляецца газэта «Царкоўнае слова», якую з красавіка 1991 г. выдае парафія ў г. Жодзіна Менскай вобласьці. Газэта выходзіць штомесячна накладам 15 тыс. паасобнікаў, публікуе шмат асьветніцкіх і выхаваўчых матар'ялаў, артыкулаў пра гісторыю і традыцыі Праваслаўнай Царквы. Публікацыі на беларускай мове рэдка займаюць больш, чым 2-3 старонкі.

Зь іншых праваслаўных пэрыёдыкаў варта назваць слуцкую газэту «Преображение». Яна таксама выходзіць штомесячна, абсягам 24 старонкі. Між іншых матэрыялаў публікуе сьпіс пацярпеўшых за веру ў Менскай епархіі ў 1924 – 1951 гадох.

Вядомае сваёй актыўнай асьветніцкай працай менскае Брацтва трох віленскіх мучанікаў ініцыявала ў 1993 г. выданьне сумесна з прадстаўнікамі беларускай дыяспары часопіса «Праваслаўе на Беларусі і ў сьвеце». Меркавалася, што часопіс ужо ў гэтым годзе стане штомесячнікам і будзе распаўсюджвацца таксама і па падпісцы. На жаль, з дапамогай беластоцкага выдавецтва Ortdruck рэдакцыя змагла выпусьціць дагэтуль толькі два, надзвычай цікавыя і зьмястоўныя, нумары. Другі год брацтва выпускае «Праваслаўны царкоўны каляндар», наклад якога ў гэтым годзе склаў 30 тыс. паасобнікаў. Прыходзіцца толькі шкадаваць, што сёлета Каляндар выйшаў цалкам на расейскай мове, хоць у мінулым годзе ён быў выдадзены па-беларуску.

### Ахвяраваньні на Выдавецкі Фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва

| | |
|---|---|
| А. Стрэчын | ам. дал. 600 |
| Др. У. Набагез | 200 |
| З. Смаршчок (Бэльгія) | 200 |
| К. і С. Вініцкі | 160 |
| А. і Б. Даніловіч | 150 |
| С. Нарушэвіч (Аўстралія) | 150 |
| Др. І. Гайдзель | 150 |
| Др. М. Смаршчок | 140 |
| К. Ворт | 140 |
| А. і К. Субота | 140 |
| Л. і Г. Мурог | 140 |
| М. і Дж. Галоўка | 130 |
| Др. Я. Запруднік (у вечную пам. Я. Міхалюка) | 100 |
| В. і Л. Кажан | 100 |
| М. і В. Сьнежка | 100 |
| Н. і А. Жызьнеўскі | 100 |
| Л. і К. Норык | 50 |
| А. і Н. Няпеін | 50 |
| Ф. Сак | 50 |
| М. Клішэвіч | 50 |
| А. Міцкевіч | 50 |
| М. Грэбень | 50 |
| А. Лашук (у вечную пам. Я. Міхалюка) | 50 |
| В. Кажан (у вечную пам. Я. Міхалюка) | 50 |

## Сьв. Пам. ЯНКА МІХАЛЮК

Нарадзіўся 22 кастрычніка 1922 г. у вёсцы Пузічы Лунінецкага павету. Доўгагадовы старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, пасьля цяжкай хваробы адышоў на вечны супачынак 31 сакавіка 1995 г. і пахаваны 7 красавіка на могілках сьв. Панкрата ва Ўсходнім Фінчлей. Сям'і нябожчыка, жонцы Лёлі, сыном Алесю, Віктару і Эдварду і іхнім сем'ям найглыбейшыя спачуваньні.

Вечная Памяць.

**Сябры Галоўнай Управы ЗБВБ**

*ЧАРНОБЫЛЬ*

### Дапамога з Аўстраліі

У Мэльбурне створаны Нацыянальны Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля (Chernobyl National Relief Fund).

Старшыню гэтага Фонду, Мікалая Грыгаровіча, наведаў нядаўна маскоўскі Патрыярх Аляксей II. Фонд запачаткоўвае пасыланьне пачак ад аўстралійцаў сіротам-ахвярам чарнобыльскае радыяцыі. Трэба спадзявацца, што дапамога гэтая дойдзе і да беларускіх дзетак.

*(Паводле аўстралійскай газэты Sunday Herald Sun, 19.III.95)*

*ПОШУКІ*

**Родных Пратасені Антона Іосіфавіча,** які нарадзіўся ў в. Замошша Слуцкага р-ну Менскай вобл. і выехаў у ЗША ці Канаду ў 1917-18 г. у веку прыблізна 20 гадоў. Ён да 1950-х гадоў дасылаў лісты свайму пляменьніку Пратасені Івану Якаўлевічу, які жыве па адрасе: г. Магілёў, вул. Баха, д. 12, кв. 66; тэл. 22-85-06.

Калі хто-небудзь ведае пра лёс родных Антона Пратасені, просім паведаміць на адрас Іванавае дачкі: 220004 г. Менск, вул. Заслаўская, д. 25, кв. 351. Кірык Нэлі Іванаўнай; тэл.: 26-88-38

## НА ДАПАМОГУ «БЕЛАРУСУ»!

Паважаныя Суродзічы!

Газэта «Беларус», як Вы бачыце зь фінансавых справаздачаў, выходзіць толькі дзякуючы падпішчыкам і ахвярадаўцам, а таксама нашым дабраахвотным карэспандэнтам, дапішчыкам і прадстаўнікам. З дабраахвотна ахвяраваных фондаў, якія дастае газэта, аплачваецца адно кошты набору, друку і рассылкі. Уся іншая праца і частка выдаткаў (тэлефонныя гутаркі, карэспандэнцыя, разьезды, развозы і іншае) робіцца задарма працаўнікамі рэдакцыі і адміністрацыі.

Выдавецкая каса «Беларуса» ніякага запасу фондаў ня мае. А таму і гарачая просьба да Вас: не пакідайце свае дапамогі газэце і ня скупецеся зь ёю. Знаходзьце ня толькі новых падпішчыкаў і ахвярадаўцаў, але й самі ўшаноўвайце юбілеі прыяцеляў ці заслужаных грамадзкіх працаўнікоў або памяць сваіх блізкіх праз ахвяраваньні ў іхнае імя на газэту «Беларус».

Няхай Вам заплатаю за гэта будзе поступ беларускага адраджэньня і замацоўваньне праз газэту «Беларус» лучнасьці беларусаў па цэлым сьвеце.

З падзякай за Вашу дасюлешнюю падтрымку —

**Рэдакцыя і адміністрацыя «Беларуса»**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

| | |
|---|---|
| Др. В. Тумаш | 50 |
| М. Латушкін | 50 |
| І. Цупрык | 40 |
| Ю. і Ч. Найдзюк | 25 |
| В. Запруднік | 25 |
| Н. Барт (Нямеччына) | 20 |
| Др. Р. Жук-Грышкевіч (Канада) | 20 |

**НА БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЁПРАГРАМЫ Ў ПЭРЦЕ (ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ)**

| | |
|---|---|
| Міхась Лужынскі | аўстрал. д. 100 |

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Н. і А. Жызьнеўскі | ам.д. 100 |
| В. Заморская | 100 |
| Я. Баран (Канада) | 72 |
| М. Грэбень | 50 |
| Ю. Найдзюк | 50 |
| М. Раецкі | аўстрал. д. 50 |

*Замiж кветак на магілу с.п. Часлава Найдзюка:*

| | |
|---|---|
| М. Клішэвіч | 55 |
| Я. Запруднік | 50 |
| В. і В. Махнач | 50 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| С.К. Ямасакі | 50 |
| Ф. Сак | 40 |
| К. Шэлест-Сэрдар | 30 |
| В. і В. Стус | 25 |
| В. Грамыка | 20 |
| В.Е. Клок | 10 |

*Замiж кветак на магілу с.п. Янкі Міхалюка:*

| | |
|---|---|
| Р. Станкевіч | ам.д. 100 |
| Я. Запруднік | 100 |

***Папраўка:** У папярэднім нумары пададзена з памылкай — трэба:*

| | |
|---|---|
| Р. Станкевіч | ам.д. 50 |
| В.і Г. Русак | 40 |
| К. Субота | 10 |
| П. Клаўс | 5 |
| А. Шульжыцкая | 5 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| І. Гайдэль | ам.д. 200 |
| А. Кіпель | 200 |
| В. Плескач | 80 |
| С. Грамыка | 60 |
| А. Акановіч | 50 |
| Г. Агоніс | 50 |
| М.К. | 40 |
| М. Гаўрылюк | 40 |
| С. Шабовіч | 40 |
| А. Губэрт | 30 |
| М. Олійнык | 30 |
| Д. Ясько | 30 |
| А. Шастак | 30 |
| К. Барысавец | 30 |
| С. Мажэйка | 30 |
| В. Букатка | 30 |
| І. Калоша | 30 |
| М. Ігнатовіч | 30 |
| К. Ворт | 30 |
| М. Шчорс | 30 |
| а. А. Яноўскі | 30 |
| В. Каракулько | 30 |
| В. Бурдзь | 26 |
| Усяго | 1176 |

### Увага!

**Усіх падпішчыкаў і ахвярадаўцаў на газэту «Беларус», што жывуць паза межамі ЗША, ветліва просім перасылаць належнасьць, выпісваючы грашовы пераказ (Money Order) у амэрыканскіх далярах.**

**Адміністрацыя газэты «Беларус»**